# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

чэрвень 2011 г.

1 чэрвеня

## У Віцебску рыхтуюць пікет за адстаўку ўраду

Прадстаўнік віцебскага моладзевага руху «Вольны шлях» Аляксандар Кузьняцоў падаў у Кастрычніцкую раённую адміністрацыю заяўку на правядзеньне пікету, мэта якога — пратэст супраць абясцэньваньня беларускіх грошай, падвышэньня цэнаў ды патрабаваньне адстаўкі ўраду, які ня можа вывесьці Беларусь з крызіснага стану.



Пікет арганізатары хочуць зладзіць 16 чэрвеня каля Летняга амфітэатру. Гэтае месца не ўваходзіць у пералік вызначаных гарвыканкамам пляцовак для правядзеньня масавых акцыяў. «Але ў іншым месцы праводзіць такі пікет ня мае сэнсу. Тут, у самым цэнтры Віцебску, заўжды шмат мінакоў. І мы хочам, каб людзі, незадаволеныя цяперашнім эканамічным становішчам, пераканаліся, што ў іх шмат аднадумцаў, і не баяліся адкрыта гаварыць пра неабходнасьць пераменаў у краіне», — кажа Аляксандар Кузьняцоў.

*Крыніца: Радыё Свабода*

1 чэрвеня

**Уладзімер Правальскі прызначыў каардынатараў для падрыхтоўкі рэфэрэндуму**



Віцебскі прадпрымальнік, былы прэтэндэнт на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах лічыць патрэбным правесьці рэфэрэндум за адстаўку Аляксандра Лукашэнкі. Для падрыхтоўкі рэфэрэндуму спадар Правальскі ўжо прызначыў каардынатараў па Віцебскай вобласьці. Сьпіс каардынатараў, у які ўвайшлі 17 чалавек, зьявіўся на асабістым сайце Ўладзімера Правальскага. Як вынікае з паведамленьня, спадар Правальскі асабіста прызначыў гэтых людзей і прапануе кожнаму ўзяць самаадвод у выпадку нязгоды. Для шэрагу актывістаў розных апазыцыйных партыяў ды рухаў прызначэньне стала навіной, пра якую яны даведаліся ад журналістаў.

Апрача актывістаў апазыцыі, у каардынатары па падрыхтоўцы рэфэрэндуму Ўладзімер Правальскі вылучыў таксама Аляксандра Ласякіна і Ўладзімера Андрэйчанку — адпаведна дэпутата і старшыню Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. На сайце *provalski.com* усім выбарцам Рэспублікі Беларусь прапанавана абмеркаваць кандыдатуры ды выказаць пажаданьні наконт адводу, калі не давяраюць згаданым асобам.

Уладзімер Правальскі вылучаўся ў кандыдаты на ўдзел у мінулых прэзыдэнцкіх выбарах. Аднак Цэнтравыбаркам не зарэгістраваў ягонай кандыдатуры, прызнаўшы сапраўднымі толькі 118 подпісаў, сабраных за яго вылучэньне.

2 чэрвеня

## КДБ пачало “вербаваць” ужо і васьміклясьнікаў?



*Фота: Е. Князева, «Народнае слова»*

Згодна з інфармацыяй, распаўсюджанай афіцыйнай газэтай Віцебскага абласнога Савету дэпутатаў і аблвыканкаму “Народнае слова”, УКДБ па Віцебскай вобласьці распачало запісваць у шэрагі тых, хто мусіць супрацоўнічаць з чэкістамі, ужо і шкаляроў. Так, паводле дзяржаўнага выданьня, на гэтым тыдні двое вучняў Багушэўскай санаторнай школы-інтэрнату былі прынятыя ў клюб “Юны дзяржынец” пры УКДБ. Самі васьміклясьнікі Жэня Рапінскі і Сьвета Волкава *(на здымку)* нават і ня думалі, што выбар прыпадзе менавіта на іх. Наколькі добраахвотна шкаляры далучыліся да створанай супрацоўнікамі КДБ структуры, якія бралі на сябе абавязальніцтвы, ці давалі якія-небудзь падпіскі, і ці згаджаліся іхныя бацькі на працу сваіх дзяцей у арганізацыі, якой апякуецца КДБ, - невядома.

Клюб “Юны дзяржынец” быў створаны ў лістападзе 2010 г. Удзельнікі клюбу вучацца абыходзіцца з разнастайнай зброяй, для іх ствараюцца адмысловыя профільныя лягеры. Дагэтуль у клюб запісвалі толькі дзяцей супрацоўнікаў КДБ ва ўзросьце ад 10-ці да 15 год. Аднак цяпер УКДБ вырашыла пашырыць кола пасьлядоўцаў “жалезнага Фэлікса” і пачало залічваць у клюб таксама выхаванцаў Багушэўскай школы-інтэрнату. Гэбісты мяркуюць працягнуць такую практыку і прымаць у шэрагі “Юнага дзяржынцу” па 1-2 вучня з гэтай школы штогод.

Прадстаўнікі грамадзкасьці выказваюць сваю заклапочанасьць ня толькі тым, што КДБ пачынае ўцягваць у сваю дзейнасьць ужо нават школьнікаў. Выклікае занепакоенасьць таксама той факт, што дзіцячая арганізацыя, створаная КДБ, носіць імя Дзяржынскага. Фэлікс Дзяржынскі, які яшчэ хлопчыкам, гуляючыся са зброяю, застрэліў сваю сястру Ванду, вядомы як адзін з самых крывавых дзеячаў Савецкага Саюза. Менавіта Дзяржынскі заклаў асноўныя мэтады карнай працы савецкай дыктатуры. Ён быў арганізатарам т. зв. “чырвонага тэрору”, ініцыятарам начных допытаў, правакацыйных мэтадаў, практыкі ўзяцьця закладнікаў. “Там, дзе пралетарыят ужыў масавы тэрор, мы не сустракаем здрадніцтва... Права на расстрэл ёсьць для ЧК надзвычайна важнае, [нават калі] ейны меч пры гэтым трапляе выпадкова на галовы бязьвінных,” - казаў колішні галава ВЧК, зь якога, на думку стваральнікаў “Юнага дзяржынцу”, мусяць браць прыклад цяперашнія шкаляры.

“За правы чалавека”

2 чэрвеня

## Кіраўнік Віцебскай арганізацыі Саюзу палякаў зьехаў за мяжу



Паводле Уладзіслава Токарава, старшыні гарадзкой арганізацыі СПБ, ва ўцёкі ён падаўся, бо яго беспадстаўна вінавацяць у фінансавых махлярствах. Цяпер ён у Польшчы, але кажа, што пакуль не зьбіраецца прасіць палітычнага прытулку. Толькі непакоіцца за сям'ю — жонку і дачку — якія засталіся ў Віцебску. Уладзіслаў Токараў знаходзіцца ў Польшчы ўжо некалькі дзён. Ён тэрмінова зьехаў зь Беларусі пасьля таго, як у мінулую суботу, 28 траўня, у ягонай кватэры правяліператрус, а яго самога затрымалі на вуліцы і дапыталі ў Дэпартамэнце фінансавых расьследаваньняў:

"Я паехаў у Менск у суботу ранкам. А калі вярнуўся вечарам, ішоў на прыпынак, мне гукнулі: "Уладзіслаў Віктаравіч!" Прывезьлі і кажуць, што на мяне напісалі заяву, нібыта я ў чалавека ўзяў пашпарт і грошы на нейкія там паслугі, пашпарт згубіў, а грошы забраў сабе. Я кажу: "Такога не было!". А яны: "Зараз будзе вочная стаўка". Паставілі відэакамэру, але я не Міхалевіч, паказкі ім распавядаць не зьбіраўся. І яны ні пад што не маглі падкапацца".

Вочная стаўка так і не адбылася — ніякі заяўнік не прыйшоў, кажа спадар Токараў. Але ў яго забралі шэсьць чужых пашпартоў, якія ён вёз зь Менску, каб перадаць знаёмым. Забралі без аніякіх пратаколаў — толькі сказалі, што перададуць гаспадарам. Узялі пісьмовыя тлумачэньні — пра тое, чым займаецца Саюз палякаў.

А тым часам у кватэры, дзе Ўладзіслаў Токараў жыве з жонкай і дачкой, праводзілі ператрус:

"Калі я прыйшоў дахаты, там жонка ў сьлязах. Кажа, што прыйшлі і забралі два ноўтбукі і кампутар. Таксама забралі ўсе дакумэнты па СПБ. Казалі жонцы: "Чым ваш муж тут займаецца? Ён моладзь на сэмінары выпраўляе, каб яны потым вярнуліся і зрабілі пераварот у Беларусі". Вось усё забралі, а ніякіх пратаколаў не пакінулі — ні копій, нічога. І я так зразумеў зь іхных размоваў, што ў панядзелак яны мяне "зачыняць".

Спадар Токараў ня стаў чакаць арышту і зьехаў у Польшчу. За 5 дзён, якія прамінулі з таго часу, ён меў магчымасьць усе абдумаць і зрабіць высновы — чым выкліканы такі перасьлед:

"Гэта праз СПБ, на 100%. Таму што арганізацыя пачала нешта рабіць тут, у Віцебску, мы правялі пікет у падтрымку палітвязьняў, іншыя былі праекты... Мне закідалі, што я нібыта аказваю нейкія паслугі — афармляю візы, але я ніколі такім не займаўся. У нас грамадзкая арганізацыя, мы маем права ладзіць нейкія сэмінары... І я ніколі не хацеў зьяжджаць: працаваў, рабіў што мог. Але тут, чым мяне абвінавацяць у махлярстве, якога я не рабіў — я вырашыў, што лепш зьехаць!".

У Віцебску Ўладзіслаў Токараў працаваў у будаўнічай фірме, жонка — лекар, 10-гадовая дачка — школьніца. Актывіста дужа непакоіць, што будзе зь ягонай сям'ёй:

"Маю жонку звольняць з працы — у яе да сканчэньня кантракту менш за год... А тут яшчэ такі нэрвовы стрэс з гэтым ператрусам... Мая ж жонка таксама брала ўдзел у некаторых сэмінарах, дык забралі яе сэртыфікаты, мае сэртыфікаты пра навучаньне — усё забралі"...

Уладзіслаў Токараў пакуль не прасіў у Польшчы палітычнага прытулку. Пакуль ён абдумвае гэткую пэрспэктыву, але чакае, куды павернецца цяпер расьследаваньне ягонай справы. Усе абвінавачаньні ў фінансавых парушэньнях і махлярстве ён катэгарычна не прызнае.

*Крыніца: Радыё Свабода*

2 чэрвеня

## Мін'юст — праваабаронцу: папярэджаньне ГА «БРСМ» вынесена ня будзе



Віцебскі праваабаронца, прадстаўнік РПГА «Беларускі Хэльсінскі камітэт» Павал Левінаў зьвяртаўся ў Міністэрства юстыцыі з нагоды бесьперапынных парушэньняў з боку ГА «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі», якое карыстаецца сваёй нестатутнай назвай — БРСМ. Але атрымаў адказ, што кіраўніцтва аб'яднаньня праінфармавана пра недапушчальнасьць парушэньняў, і гэтага дастаткова.

Павал Левінаў мяркуе, што Мін'юст дэманструе падвойныя стандарты ў стаўленьні да розных грамадзкіх суполак:

«Атрымліваецца, што ГА "Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі" — недатыкальная арганізацыя, дзейнасьць якой не разглядаецца з пазыцый дзейнага заканадаўства. Няўрадаваму ўтварэньню міністэрства даўно б ужо вынесла некалькі папярэджаньняў ды зьвярнулася б у суд з пазовам наконт ліквідацыі. Падобнае парушэньне, паводле Мін'юста, было дапушчана ў паведамленьні, якое РПГА "Беларускі Хэльсінскі камітэт" накіравала спэцдакладчыку ААН па пытаньнях незалежнасьці судзьдзяў і адвакатаў Г. Кнауль. І РПГА "Беларускі Хэльсінскі камітэт" атрымала пісьмовае папярэджаньне».

Праваабаронца падкрэсьлівае, што ГА «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі» па-ранейшаму выкарыстоўвае няпоўную назву аб'яднаньня, нават пасьля таго, як Мін'юст яго «праінфармаваў»:

«Проста БХК пісаць нельга. Хоць вельмі часта можна сустрэць толькі абрэвіятуру БРСМ, і гэта ці не на кожным кроку. Але калі ўжо вядзецца пра дакладнасьць і, выбачайце за калямбур, пра "літару закону", то ўсе літары павінны быць на месцы — як пазначана ў статуце. Інакш прэтэнзіі Мін'юсту беспадстаўныя, а папярэджаньні — незаконныя».

31 траўня Павал Левінаў зноў зьвярнуўся з заявай — наўпрост да міністра юстыцыі — каб усё ж вынесьці пісьмовае папярэджаньне ГА «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі» за выкарыстаньне няпоўнай назвы.

4 чэрвеня

## Палітвязень Алесь Кіркевіч будзе сядзець у Наваполацку



Як стала вядома, намесьнік старшыні «Маладога Фронту» Алесь Кіркевіч неўзабаве будзе адпраўлены ў Наваполацкую калёнію № 10. Такім чынам, установа ў Наваполацку становіцца «лідэрам» па колькасьці палітзьняволеных. У Наваполацкай калёніі ўжо знаходзіцца актывіст руху «За Свабоду» Мікіта Ліхавід. Гэтымі днямі туды павінны прывезьці іншага палітвязьня - экс-кандыдата ў прэзыдэнты Андрэя Саньнікава.

Пакуль Кіркевіч знаходзіцца на «Валадарцы». «Я бачылася зь ім 25 траўня. Настрой у яго бадзёры, але ў хуткае вызваленьне Алесь ня верыць,» - распавяла ў інтэрвію тэлеканалу «Белсат» маці маладафронтаўца Ларыса Кіркевіч. Алесь Кіркевіч асуджаны на чатыры гады пазбаўленьня волі за нібыта актыўны ўдзел у масавых непарадках 19 сьнежня 2010 г.

*"За правы чалавека"*

6 чэрвеня

## Саньнікава адсылаюць у адну калёнію з забойцам з «эскадрону сьмерці»

Кандыдата ў прэзыдэнты Андрэя Саньнікава маюць намер адправіць адбываць тэрмін у Наваполацкую калёнію № 10. Высьветлілася, што ў калёніі № 10 адбывае пакараньне былы намесьнік камандзіра ваеннай часткі 3214 (на базе якой існуе СОБР - "спецотряд быстрого реагирования") Андрэй Васільеў *(на здымку)*. У апошняй сэрыі палітычнага сэрыялу «Хросны бацька», паказаным на тэлеканале НТВ, было заяўлена, што маёр Андрэй Васільеў ніколі не хаваў свайго асабістага ўдзелу ў выкраданьні і забойствах лідэраў апазыцыі Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і журналіста Зьмітра Завадзкага ў 1999-2000 гадох.

Жаўнер часткі 3214 Дзьмітры Новічак распавёў НТВ, што сьпецназавец Валер Ігнатовіч, які асуджаны за выкраданьне Зьмітра Завадзкага, былы камандзір вайсковай часткі 3214 палкоўнік Дзьмітры Паўлічэнка і гэты самы Васільеў «павязаныя крывёю». Сьцьвярджалася, што маёр Васільеў уваходзіў у «эскадрон сьмерці» - створанае на базе СОБРа на загад Лукашэнкі таемнае падразьдзяленьне, што зьнішчае палітычных апанэнтаў беларускага дыктатара.




У 2002 годзе Васільеў быў асуджаны Беларускім вайсковым судом за забойства дзяўчыны. Суд праходзіў у закрытым рэжыме і прысудзіў Васільева да 21 году пазбаўленьня волі. Аднак у фільме «Хросны бацька» сьцьвярджаецца, што Васільева схавалі за краты ня гэтулькі за забойства, колькі за інфармацыю аб гучных зьнікненьнях, якой ён быццам бы валодае.

Знаходзячыся ў СІЗА, Васільеў распавядаў сукамэрнікам, а таксама Дзмітрыю Новічаку, які ў той час знаходзіўся там сама, што 7 ліпеня 2000 году ў складзе групы зь пяці чалавек пад кіраўніцтвам камандзіра в/ч 3214 Дзьмітрыя Паўлічэнкі ўдзельнічаў у арганізацыі выкраданьня і ліквідацыі апэратара ОРТ Зьмітра Завадзкага, а таксама і ў некаторых іншых тайных апэрацыях СОБРа.

Аб тым, дзе адбывае пакараньне Андрэй Васільеў, удалося высьветліць адразу пасьля выхаду «Хроснага бацькі-4» увосень мінулага году газэце «Народная воля». Выданьне зьвярнулася ў Дэпартамент выкананьня пакараньняў МУС Беларусі з просьбай наведаць Васільева.

«...З прычыны таго, што асуджаны Васільеў Андрэй Аляксандравіч, які адбывае пакараньне ў ВК-10, у пісьмовым выглядзе адмовіўся ад даваньня інтэрвію любым сродкам масавае інфармацыі, вам адмоўлена ў наведваньні гэтага асуджанага", - даслаў афіцыйны адказ першы намесьнік начальніка ДВП С. Працэнка.

Ці добраахвотна Андрэй Васільеў адмовіўся ад дачы паказаньняў, або яго настойліва папрасілі напісаць такую паперу - дакладна не вядома. Аднак інтэрвію афіцыйным мэдыям Васільеў даваў ужо сёлета ў студзені. У спэцыяльным выпуску аўтарскага праекту Аляксея Міхальчанкі «Як ёсьць. Тэхналёгіі пераваротаў» на тэлеканале ОНТ ён быў паказаны ў Наваполацкай калёніі. Васільеў абвяргаў паказаньні Дзьмітрыя Новічака і сьцвярджаў, што ніколі не служыў у СОБРы, хоць ёсьць фатаграфіі, дзе ён адлюстраваны разам з былым камандзірам СОБРа Дзьмітрыем Паўлічэнкам - адным з падазраваных у выкраданьнях і забойствах апазыцыянэраў.

Сваякі Андрэя Саньнікава лічаць, што накіраваньне Андрэя Саньнікава ў адну калёнію з забойцам з «эскадрону сьмерці» нельга лічыць выпадковым.

«Мы атрымалі інфармацыю пра тое, якія ўмовы ўтрыманьня ў Наваполацкай калёніі, і аб тым, хто там утрымліваецца. Намі былі праведзеныя кансультацыі з брытанскімі і амэрыканскімі адвакатамі, што зьбіраюць інфармацыю пра неправамоцныя дзеяньні беларускіх уладаў. Акрамя гэтага мы апавясьцілі эўрапейскія і амэрыканскае зьнешнепалітычныя ведамствы. Хачу паведаміць беларускім уладам і кіраўніцтву папраўчай установы - у выпадку, калі ў калёніі нешта здарыцца з Андрэем Саньнікавым, або іншымі палітвязьнямі - гэта будзе разглядацца як наўпроставыя дзеяньні ўладаў, скіраваныя супраць сваіх палітычных апанэнтаў", - заявіла сястра кандыдата ў прэзыдэнты Ірына Багданава.

*Крыніца: Хартыя '97*

6 чэрвеня

## Маці абвінавачанага ў тэракце не дазволілі быць законным прадстаўніком сына

У лісьце, падпісаным кіраўніком сьледчай групы, што займаецца справай выбуху ў менскім мэтро 11 красавіка, намесьнікам Генэральнага пракурора Андрэем Шведам, напісана, што маці не дазволілі быць законным прадстаўніком сына, бо ён паўналетні і дзеяздольны. Маці занепакоеная фізычным і маральным станам свайго 26-гадовага сына, які знаходзіцца ў СІЗА КДБ. Яна лічыць сына невінаватым і непакоіцца, што на яго можа быць аказаны ціск, каб ён узяў на сябе віну за тое, чаго не рабіў. Таму спадарыня хацела, каб яе дапусьцілі да ўдзелу ў дзеяньнях па крымінальнай справе, распачатай супраць яе сына.

30 траўня яна зьвярнулася з заявай да кіраўніка сьледчай групы, спасылаўшыся на шэраг артыкулаў Крымінальна-працэсуальнага кодэксу, якія рэглямэнтуюць магчымасьці грамадзян быць законнымі прадстаўнікамі сваіх бліжэйшых сваякоў, якіх вінавацяць у крымінальных злачынствах. Але атрымала адмову на падставе таго, што яе сын паўналетні і што "ў воргана папярэдняга расьсьледаваньня няма зьвестак і падставаў меркаваць, што ён недзеяздольны".

Віцебскі праваабаронца Павал Левінаў мяркуе, што дамагчыся ўдзелу ў справе сына можна было б іншым шляхам :

"Законны прадстаўнік сапраўды можа прадстаўляць інтарэсы толькі непаўналетняй або недзеяздольнай асобы. Але на падставе часткі 3 артыкулу 44 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу маці абвінавачанага магла б стаць адным з абаронцаў сына, колькасьць якіх, паводле заканадаўства, не абмежаваная. Але хадайніцтва пра гэта мусіць падаць у ворган расьсьледаваньня сам абвінавачаны.

У мяне ёсьць падставы меркаваць, што просты 26-гадовы хлопец зь сярэдняй адукацыяй наўрад ці мог ведаць пра такое сваё права. Аднак распавесьці пра гэта абвінавачанаму абавязкова мусіў ворган, які вядзе сьледзтва. Мог бы падказаць зрабіць гэта і прафэсійны адвакат".

6 чэрвеня

## У Віцебскай вобласьці актывізаваная работа па прафіляктыцы карупцыйных праяў

У Віцебскай вобласьці дзейнасьць па прафіляктыцы карупцыйных праяў у 2010 і 2011 гадох значна актывізаваная, рэалізаваны шырокі комплекс мер, накіраваных на стварэньне ў грамадзтве атмасфэры нецярпімасьці да такіх правапарушэньняў" - пра гэта паведамілі ў Генпракуратуры.

У 2010 годзе ў вобласьці былі зарэгістраваныя 482 карупцыйныя злачынствы, у першым квартале 2011 году — 122. Летась павялічылася колькасьць выяўленых фактаў крадзяжоў шляхам злоўжываньня службовымі паўнамоцтвамі, учыненых у буйным і асабліва буйным памеры, з 32 да 43, ці на 34,4%, фактаў атрыманьня хабару — з 29 да 47, ці на 60%.



У 2011 годзе больш чым у 1,5 разы павялічылася колькасьць выяўленых праваахоўнымі органамі вобласьці фактаў крадзяжоў шляхам злоўжываньня службовымі паўнамоцтвамі (з 40 да 64, ці на 60%). Распачата 50 крымінальных спраў аб хабарніцтве (у 2010 годзе — 49). Пры гэтым значна ўзрасла колькасьць фактаў атрыманьня хабару.

Праваахоўнымі структурамі рэгіёну вызначаныя меры па павышэньні ролі органаў пракуратуры, унутраных спраў, дзяржаўнай бясьпекі, іншых дзяржорганаў у процідзеяньні карупцыі з улікам палажэньняў Дзяржаўнай праграмы па барацьбе са злачыннасьцю і карупцыяй на 2010—2012 гады, Канцэпцыі ўдасканаленьня сыстэмы мер крымінальнай адказнасьці і парадку іх выкананьня.

Пастаўлена задача акцэнтаваць увагу на неабходнасьці правядзеньня пастаяннай работы па рэалізацыі прафіляктычных антыкарупцыйных мерапрыемстваў і вырашэньня праблемы кампэнсаваньня шкоды, прычыненай карупцыйнымі злачынствамі. Апэратыўныя службы праваахоўных органаў арыентаваныя на выяўленьне цяжкіх і асабліва цяжкіх карупцыйных злачынстваў.

*Крыніца: БелаПАН*

8 чэрвеня

## Старэйшы памочнік пракурора Віцебскай вобласьці пагражае жыхарам сьмяротнай карай



На старонках Віцебскай гарадзкой газэты «Віцьбічы» зьявіўся артыкул, аўтарам якога выступае старэйшы памочнік пракурора вобласьці па наглядзе за выкананьнем заканадаўства аб дзяржаўнай бясьпецы Уладзімер Белавус. Празь дзяржаўнае выданьне высокапастаўлены прадстаўнік пракуратуры заклікае насельніцтва добраахвотна здаваць зброю, боепрыпасы і выбухоўку і папярэджвае аб адказнасьці (аж да пакараньня сьмерцю) ў выпадку ігнараваньня яго-нага закліку:

«У апэратыўных зводках практычна штодня фіксуюцца факты выяўленьня і канфіскацыі небясьпечных прадметаў. У гэтай сувязі хацелася б адзначыць, што ў Крымінальным Кодэксе Рэспублікі Беларусь прадугледжаная адказнасьць за незаконныя дзеяньні з агнястрэльнай зброяй, боепрыпасамі і выбуховымі рэчывамі - ад папраўчых работ да 12 гадоў пазбаўленьня волі... Адказнасьць можа быць яшчэ больш суворай, аж да сьмяротнага пакараньня... Таму вельмі хацелася б, каб пра гэта ведалі, задумаліся і заўсёды памяталі аматары вострых адчуваньняў, так званыя чорныя капальнікі і іншыя шукальнікі прыгодаў».

*"За правы чалавека"*

8 чэрвеня

## Праваабаронца просіць прыцягнуць да адказнасьці намесьніка міністра эканомікі



Прадстаўнік Беларускага Хельсінскага Камітэту ў Віцебску і рэгіёне праваабаронца Павал Левінаў *(на фота)* зьвярнуўся з заявай да начальніка Цэнтральнага РУУС г. Менску. У сваёй заяве Левінаў паказвае на тое, што, знаходзячыся ў грамадзкім мейсцы па Музычным завулку ў горадзе Менску, грамадзянін Тур Андрэй Мікалаевіч - намесьнік міністра эканомікі Рэспублікі Беларусь, выяўляючы відавочную непавагу да грамадзтва, ужываў нецэнзурную лаянку пры зносінах з грамадзянамі, чым зьдзейсьніў адміністрацыйнае правапарушэньне, адказнасьць за якое прадугледжана артыкулам 17.1. Кодэксу Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэньнях. Гэты факт пацьвярджаецца відэазапісам зь мейсца падзеі.

«Інфармую, што мяне неаднаразова прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасьці паводле артыкулу 17.1. Кодэксу Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэньнях, толькі на падставе паказаньняў людзей у міліцэйскіх пагонах, якія ў судох заяўлялі, што гук майго мацюка дрэнна запісаўся на відэакамэру, бо... было недастаткова асьвятленьня. Як відаць з запісу, нецэнзурныя выразы грамадзяніна Тура А. М. запісаліся пры добрым асьвятленьні», - паведамляе ў сваёй заяве Левінаў.

Такім чынам, віцебскі праваабаронца просіць распачаць адміністрацыйны працэс у дачыненьні да грамадзяніна Рэспублікі Беларусь Тура Андрэя Мікалаевіча за зьдзяйсьненьне ім дробнага хуліганства.

*Крыніца: "Беларускі Хэльсінскі Камітэт"*

8 чэрвеня

## ДАІ не спадабалася бел-чырвона-белая стужка

Віцебскага актывіста, прадстаўніка віцебскага моладзевага руху «Вольны шлях» Аляксандра Кузьняцова выклікаюць на камісію за парушэньне правілаў паркоўкі. Супрацоўнікам ДАІ не спадабалася, што за лабавым шклом прычэплена бел-чырвона-белая стужка і значок «Жыве Беларусь!» Параіўшыся з начальствам, прадстаўнікі ДАІ заявілі, што за такое аштрафаваць не могуць, але караюць за іншае – за паркоўку ў «зялёнай зоне».

Сваю машыну Аляксандр Кузьняцоў звычайна пакідае ў двары дома, дзе жыве, і дагэтуль прэтэнзіяў да яго не было:



«1 чэрвеня я падаў у Кастрычніцкую раённую адміністрацыю заяўку на правядзеньне пікету, мэта якога – пратэст супраць абясцэньваньня беларускіх грошай, падвышэньня коштаў ды патрабаваньне адстаўкі ўраду, які ня можа вывесьці Беларусь з крызіснага стану. Калі я вяртаўся, у двары мяне чакалі міліцыянты–сьпецназаўцы. Яны паглядзелі маю машыну і выклікалі супрацоўнікаў ДАІ. Доўга разглядалі цацку, якая ў мяне вісіць – на ёй прышпілены значок і бел-чырвона-белая стужка. Потым тэлефанавалі кудысьці і раіліся, ці можна гэта кваліфікаваць як нейкае парушэньне. Аказалася, што не. Тады сказалі, што я парушаю правілы паркоўкі».

Аляксандар Кузняцоў атрымаў выклік на камісію ў ДАІ, ён мусіць зьявіцца туды 20 чэрвеня. Актывісту пагражае штраф.

Цяпер ён чакае адказу з раённай адміністрацыі наконт пікету. Арганізатары хочуць зладзіць яго 16 чэрвеня каля Летняга амфітэатру. Спадар Кузьняцоў лічыць, што праблемы з ДАІ і зварот да ўладаў наконт пікету непасрэдна зьвязаныя паміж сабой – бо незвычайная ўвага да яго транспартнага сродку праявілася якраз пасьля падачы заявы.

*Крыніца: Праваабарончы цэнтар "Вясна"*

9 чэрвеня

## Палітвязьня Мікіту Ліхавіда зноў кінулі ў карцэр



Мікіта Ліхавід, актывіст руху «За свабоду», трэці раз за месяц трапіў у карцэр. Пра гэта паведаміла ягоная маці Алена Ліхавід: «Сёньня я патэлефанавала ў калёнію, мне абяцалі паведаміць, як справы ў сына пасьля выхаду з карцэру, дзе ён адбыў 15 дзён. І раптам мне кажуць, што Мікіта зноў трапіў у карцэр — гэтым разам яму далі 5 дзён. За што, не сказалі. Яшчэ буду званіць выхавальніку, зь якім учора размаўляла, можа, ён патлумачыць, што адбылося».

Мікіта Ліхавід быў пакараны за Плошчу на 3 гады зьняволеньня. Ад пачатку траўня ён адбывае тэрмін у наваполацкай калёніі. Там Мікіта адмовіўся называцца асуджаным. За гэта ён атрымаў спачатку 10 дзён карцэру, потым яшчэ 15, зараз 5 дзён. У судзе актывіст Мікіта Ліхавід не прызнаў сябе вінаватым і працягвае дамагацца апраўданьня, знаходзячыся ў калёніі. Ліхавід кажа пра сябе «незаконна асуджаны» і таксама не выконвае некаторыя загады адміністрацыі.

*Крыніца: Радыё Свабода*

9 чэрвеня

## Віцебская ДАІ штрафуе за налепкі «Стоп-бэнзін»

8 чэрвеня аўтамабілісты Віцебску спрабавалі правесьці мясцовую акцыю «Стоп-бэнзін», але яна была перапыненая ДАІ ў самым пачатку. Адзін з кіроўцаў атрымаў штраф за налепкі на машыне. Удзельнікі акцыі пачалі зьбірацца а 18:45 на праспэкце Будаўнікоў насупраць гандлёвага дому «Вольга», аднак зараз жа зьявіліся дзьве патрульныя машыны ДАІ і трактар эвакуатар. На гэты момант было ўсяго толькі чатыры машыны ўдзельнікаў. Інспэктары ДАІ апыталі кіроўцаў, загадалі ўсім зьняць налепкі і разьехацца.



Адзін чалавек, які раздаваў улёткі з атрыбутыкай «Стоп-бэнзін», аштрафаваны на 17 500 рублёў за «разьмяшчэньне на аўтамабілі недазволенай рэкламы».

*Крыніца: Народныя навіны Віцебска*

11 чэрвеня

*Затрыманы супрацоўнік міліцыі, па віне якога не аказалася адбіткаў пальцаў абвінавачанага ў зьдзяйсьненьні тэракту ў менскім мэтро*

Праваахоўныя ворганы Беларусі затрымалі супрацоўніка міліцыі па падазрэньні ў нядбайнасьці, з-за якой адбіткаў пальцаў менскага



"тэрарыста" не аказалася ў базе дадзеных. "Затрыманы супрацоўнік міліцыі, які падазраецца ў зьдзяйсьненьні гэтай халатнасьці", - заявіла крыніца ў праваахоўных ворганах, адказваючы на пытаньне аб выніках расьследаваньня прычынаў, з-за якіх дадзеных аб дактыляскапіі ў дачыненьні да абвінавачванага ў зьдзяйсьненьні тэракту ў мэтро не зьмяшчалася ў ніводнай базе.

Раней паведамлялася пра затрыманага міліцыянта, які нёс службу 11 красавіка ў мэтро і недагледзеў тэрарыста зь вялікай торбай.

11 чэрвеня

## Глыбоцкі райвыканкам змушае супрацоўнікаў установаў культуры нарыхтоўваць кармы для калгаснага быдла



Супрацоўнікі ўстановаў культуры паведамілі, што ім загадваюць нарыхтоўваць кармы для калгаснай скаціны. Паводле чутак, кожны супрацоўнік павінен нарыхтаваць па паўтары тоны сена. Кіраўніца справамі райвыканкаму Алена Зібарава пацьвердзіла, што райвыканкам прыняў рашэньне "аб аказаньні дапамогі ў нарыхтоўцы зялёнай масы", паводле якога ўстановы Глыбоцкага раёна павінны нарыхтоўваць кармы для калгасаў.

Чуткі пра паўтары тоны сена, нібыта даведзеныя на кожнага супрацоўніка аддзела культуры, спадарыня Зібарава абвергла. Па яе словах, увесь аддзел культуры, у якім працуюць каля 300 чалавек, павінен нарыхтаваць паўтары тоны зялёнай масы. Па словах Алены Зібаравай, прымаць такія рашэньні прымушае бядотны стан сельскай гаспадаркі. "Сёньня ні малако, ні кефір, ня зьяўляцца на прылаўках без дапамогі. Калі мы ня будзем у адзінай зьвязцы вырашаць пытаньні харчаваньня, выхаду з крызісу, нічога не атрымаецца", - заявіла Зібарава.

Прыцягненьне супрацоўнікаў установаў і прадпрыемстваў для пазапрофільных працаў становіцца ўсё больш частай зьявай у рэгіёне. Выпадкі, калі сьпецыялістаў, якія маюць вышэйшую адукацыю, накіроўваюць высякаць хмызьнякі, зьбіраць каменьне, абкошваць дарогі, сталі тыповымі ня толькі ў Глыбоцкім, але і ў суседніх раёнах.

"Прыцягненьне да нізкакваліфікаванай працы - гэта, па-першае, грубае парушэньне працоўнага заканадаўства, а па-другое, спосаб прыніжэньня асобы. Уявіце сытуацыю. Чыноўнікі з райвыканкаму прыбіраюць сьмецьце на беразе Кагальнага возера, а кампанія беспрацоўных тут жа гэта сьмецьце пакідае. Так і ў вёсцы. З-за нізкіх заробкаў нармальныя работнікі зьбеглі з СВК, а той, хто застаўся, відаць, вырашаць праблемы сельскай гаспадаркі ня ў стане. Настаўнікі пад прымусам будуць грабіць сена, каб потым на гэтым сене мясцовым выпівохам больш мякка спалася", - кажа адзін з глыбоцкіх настаўнікаў.

*Крыніца: Весткі.info*

## 12 чэрвеня на Полаччыне будуць разьвітвацца з Васілём Храмцовым



Пайшоў з жыцьця адзін са стваральнікаў і шматгадовых лідэраў беларускага руху Навапалацку Васіль Храмцоў. Яму было ўсяго 45 гадоў.

Пра сябра і паплечніка ўзгадвае беларускі палітык Вінцук Вячорка: "Будучы рабочым навапалацкага заводу "Вымяральнік", быў актывістам экалягічнага руху ў Навапалацку, які грымеў тады на ўсю Беларусь. Будучы чалавекам нацыянальна сьведамым, прыйшоў у беларускі нацыянальны рух, з таго часу, можна сказаць, зь ягоным імем зьвязаныя ўсе асноўныя зьдзяйсьненьні ў барацьбе за свабоду і незалежнасьць, нацыянальнае адраджэньне ў Навапалацку. Ён быў адзін з тых, хто ўзьнёс бел-чырвона-белыя сьцягі на будынках гарадзкой улады ў Полацку і Навапалацку ў 1991 годзе. А да таго ён быў сузаснавальнікам Канфэдэрацыі беларускіх суполак і Беларускага Народнага Фронту. Ён быў удзельнікам памятных Дзядоў у 1988 годзе".

Зь імем Васіля Храмцова таксама зьвязана нацыянальна-культурнае адраджэньне Навапалацку. "Ён быў стваральнікам супольнасьці "Усяслаў Чарадзей", выдатным знаўцам традыцыйных абрадаў, чалавекам, здольным весьці за сабой і выхоўваць у нацыянальным духу моладзь", — кажа Вінцук Вячорка. Разьвітаньне з Васілём Храмцовым пройдзе 12 чэрвеня ў Навапалацку а першай гадзіне дня.

Яна Запольская, *Радыё Рацыя*.

13 чэрвеня

## FIDH і «Вясна» патрабуюць спыніць жорсткае абыходжаньне і катаваньні ў дачыненьні да Мікіты Ліхавіда

Міжнародная Фэдэрацыя «За правы чалавека» (FIDH) і Праваабарончы цэнтар «Вясна» патрабуюць спыніць жорсткае абыходжаньне і катаваньні ў дачыненьні палітычнага зьняволенага Мікіты Ліхавіда. Паводле атрыманай інфармацыі, у ШІЗА Навапалацкай калёніі М. Ліхавід падвяргаецца жорсткаму, бесчалавечнаму і зьневажаючаму чалавечую годнасьць абыходжаньню, што па сутнасьці зьяўляецца катаваньнямі.

М. Ліхавід 29 сакавіка 2011 года быў асуджаны судом Партызанскага раёну Менску паводле ч. 2 арт. 293 КК Рэспублікі Беларусь (удзел у масавых непарадках) да 3 гадоў і 6 месяцаў пазбаўленьня волі за ўдзел у акцыі пратэсту 19 сьнежня 2010 году.

Умовы ўтрыманьня зьняволеных у штрафных ізалятарах Беларусі сталі прадметам рэзкай крытыкі міжнародных і беларускіх праваабарончых арганізацыяў. FIDH таксама зьвяртала ўвагу на ўмовы ўтрыманьня зьняволеных ў ШІЗА ў сваім дакладзе аб умовах утрыманьня ў беларускіх турмах. Так, у пэрыяд знаходжаньня ў ШІЗА зьняволеным не прадастаўляюцца прагулкі, не выдаюцца спальныя прыналежнасьці, ім забараняецца ляжаць або сядзець на нарах (нары прыфастрыгоўваюцца ў дзённы час да сьцяны), ляжаць на падлозе таксама не дазваляецца. Акрамя таго, зьняволеным забараняецца




мець пры сабе цёплыя рэчы, пры гэтым тэмпэратура ў ШІЗА часта вельмі нізкая. Зьмешчаныя там асуджаныя фактычна пазбаўленыя сну, адчуваюць пастаянны холад, пастаянна пазбаўленыя доступу да вольнага паветра. Гэтыя ўмовы ўтрыманьня, відавочна, не адпавядаюць мінімальным міжнародным стандартам утрыманьня зьняволеных.

*Праваабарончы цэнтар «Вясна»*

14 чэрвеня

## Польскі сьпявак: Я ня буду піць з вамі шампанскае, калі Пачобут і іншыя ў турме

Паведамляючы пра суд над Андрэем Пачобутам у Горадні, сёньняшняя Gazeta Wyborcza піша таксама аб тым, што ў сувязі з гэтым працэсам польскі сьпявак Мечыслаў Шчэсьняк адмовіўся ад запрашэньня быць сябрам журы сёлетняга «Славянскага базару» ў Віцебску.

Шчэсьняк атрымаў запрашэньне ўдзельнічаць у журы перад арыштам Пачобута. Gazeta Wyborcza цытуе ліст, які сьпявак нядаўна паслаў арганізатарам віцебскага фэстывалю:



«Прыйшлі цяжкія часы для ўсіх беларусаў і для палякаў, якія жывуць сярод Вас. Вы адчуваеце гэта ў штодзённым жыцьці, адчуваюць гэта тыя, якія знаходзяцца ў турме, як Андрэй Пачобут і шмат вашых суродзічаў. Я не магу прыкідвацца, што мяне гэта не абыходзіць, я не магу зарабляць грошы, радавацца і піць шампанскае, калі іншыя на нашых вачах церпяць перасьлед і мучаюцца.

Прабачце — ня будзе мяне на фэстывалі, але калісьці я прыеду зь вялікай радасьцю, каб цешыцца Вашай свабодай — гэта непазьбежна.

Жадаю вам сьмеласьці і надзеі,

*Ваш Мечыслаў Шчэсьняк*».

14 чэрвеня

## На Віцебшчыне забараняюць пікеты за адстаўку ўраду

Каардынатар віцебскага моладзевага руху «Вольны шлях» Аляксандар Кузьняцоў і актывіст кампаніі «Гавары праўду» з Гарадка Леанід Аўтухоў зьбіраліся 16 чэрвеня правесьці пікеты са зборам подпісаў за адстаўку ўраду, які ня можа вывесьці Беларусь зь цяжкага эканамічнага становішча. Райвыканкамы адмовілі абодвум арганізатарам.

Мясцовыя актывісты абвясцілі, што абмяркоўваць такія жыцьцёва важныя рэчы, як падвышэньне цэнаў, абясцэньваньне беларускіх грошай і праблемы з валютай трэба публічна. Таму праводзіць пікеты ды зьбіраць подпісы меркавалі на цэнтральнай плошчы Гарадка і каля летняга амфітэатру ў Віцебску.

У пісьмовых адмовах, якія атрымалі Леанід Аўтухоў і Аляксандар Кузьняцоў, гаворыцца, што гэтыя месцы не ўваходзяць у пералік тэрыторыяў, вызначаных уладамі для правядзеньня масавых мерапрыемстваў.

Адміністрацыя Кастрычніцкага раёну Віцебску таксама нагадала Аляксандру Кузьняцову, што заяўнік мусіў прыкласьці да звароту пісьмовыя дамовы на абслугоўваньне імпрэзы службамі жыльлёва-камунальнай гаспадаркі, міліцыяй і «хуткай дапамогай». Гэта ўжо стандартная прычына адмовы грамадзкім актывістам, якія цяпер практычна ня могуць правесьці ў абласным цэнтры ніводнай масавай імпрэзы: міліцыя, мэдычныя ўстановы і раённыя структуры ЖКГ не заключаюць дамоваў без дазволу чыноўнікаў, а тыя, у сваю чаргу, не даюць дазволаў без наяўных дамоваў.

*Крыніца: Радыё Свабода*

15 чэрвеня

## Яшчэ адзін палітвязень на Віцебшчыне: у Наваполацку будзе адбываць пакараньне Ігар Аліневіч



Вызначыліся месцы, дзе будуць адбываць пакараньні асуджаныя па справе анархістаў. Сярод гэтых месцаў ёсьць і турма на Віцебшчыне: у наваполацкую калёнію № 10 неўзабаве этапуюць Ігара Аліневіча, якога 24 траўня суд Заводзкага раёну Менску пакараў 8 гадамі пазбаўленьня волі ўзмоцьненага рэжыму. Ігар Аліневіч быў абвінавачаны паводле часткі 2 артыкулу 339 КК РБ («хуліганства, зьдзейсьненае групай асобаў») і частак 2 і 3 артыкулу 218 КК («пашкоджаньне маёмасьці агульнанебясьпечным спосабам і ў асабліва буйным памеры»).

Праваабарончыя арганізацыі адзначаюць, што суд над Ігарам Аліневічам і іншымі фігурантамі справы адбываўся з шэрагам парушэньняў, і таму зьняволенных па гэтай справе нельга лічыць законна асуджанымі. Так, затрыманьне Ігара Аліневіча ў Маскве і далейшая перавозка яго ў СІЗА КДБ у Менску адбываліся з парушэньнем устаноўленых працэдураў, у тым ліку працэдуры экстрадыцыі беларускіх грамадзянаў з Расейскай Фэдэрацыі. Пры затрыманьні ён быў пазбаўлены магчымасьці атрымаць дапамогу з боку адваката і, такім чынам, магчымасьці абскардзіць затрыманьне. Цягам папярэдняга сьледзтва да абвінавачаных ужываліся псыхалягічны ціск і катаваньні. Падчас судовага разбіральніцтва не выконваўся прынцып роўнасьці бакоў наконт прадстаўленьня доказаў. Судом часьцяком не задавальняліся абгрунтаваныя хадайніцтвы абароны, у тым ліку адносна допыту сьведак, і гэта ўплывала на аб'ектыўнасьць разгляду справы, сьведчыла пра абвінаваўчы ухіл судовага працэсу ў цэлым.

*"За правы чалавека"*

15 чэрвеня

## У Віцебску арыштавалі "рэвалюцыянэраў"

Сёньня ў Віцебску на Плошчы Перамогі адбылася акцыя "Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі". Ініцыятары мерапрыемства заклікалі грамадзян штосерады а 19:00 праводзіць гэткія акцыі ва ўсіх гарадох краіны, зьбіраючыся - без транспарантаў, сьцягоў і сымболікі - на галоўных плошчах гарадоў. У Віцебску на заклік адгукнуліся некалькі дзясяткаў чалавек. Не пасьпела акцыя на знак салідарнасьці распачацца - як сваю акцыю распачалі міліцыянты. Адбыўся "хапун". Супрацоўнікі праваахоўных затрымалі некалькі чалавек. Сярод іх - рэдактар сайту "Народныя навіны Віцебска" Сяргей Серабро. Затрыманых адвезлі ў пастарунак.



*"За правы чалавека"*

16 чэрвеня

## Банкі адмаўляюцца маніторыць валютныя рахункі сваіх кліентаў у Віцебскай вобласьці

Ініцыятыва ўладаў Віцебскай вобласьці штодня паведамляць ім інфармацыю аб рэштах валютных сродкаў на рахунках суб'ектаў гаспадараньня не знайшла падтрымкі ў шэрагу банкаў. На пачатку тыдня ў філіялы беларускіх банкаў у Віцебскай вобласьці прыйшлі лісты ад намесьніка губэрнатара зь пералікам шэрагу захадаў для рэгуляваньня сытуацыі на валютным рынку. Аднак банкі спасылаліся на тое, што згодна з Банкаўскім кодэксам ня могуць выдаваць інфармацыю аб сваіх кліентах трэцім асобам.




Неўзабаве прававая калізія была крыху выпраўленая. І ў банкі прыйшоў ліст ужо ад галоўнага ўпраўленьня Нацбанку па Віцебскай вобласьці. Аднак і тут банкіры знайшлі матывы, каб адмовіць у гэтай просьбе. Сваё рашэньне яны аргумэнтавалі тым, што форма прадастаўленьня зьвестак аб рэштах сродкаў у валюце на рахунках юрыдычных асоб не зьяўляецца формай справаздачнасьці, зацьверджанай Нацбанкам. Апроч таго, гэтыя патрабаваньні не адпавядаюць некаторым палажэньням дырэктывы № 2 "Аб мерах па далейшай дэбюракратызацыі дзяржаўнага апарату". У прыватнасьці, не дапускаецца запыт дзяржворганамі ў непасрэдна не падпарадкаваных ім арганізацыяў іншай інфармацыі, акрамя дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасьці і ведамаснай справаздачнасьці.

*Крыніца: Tyт.by*

16 чэрвеня

## Ліхавід зноў патрапіў у штрафны ізалятар

Палітвязень Мікіта Ліхавід чацьверты раз за месяц зьмешчаны ў штрафны ізалятар – на гэты раз адміністрацыя Наваполацкай калёніі абвінаваціла асуджанага за Плошчу ў неданясеньні на сваіх сукамэрнікаў. Паводле маці актывіста Алены Ліхавід, такім чынам хлопец у штрафным ізалятары сядзіць ужо 35 дзён.

Учора ў калёніі актывіста наведала адвакат Дар'я Ліпкіна: "Ён выразна заняў сваю пазыцыю і адыходзіць ад яе не зьбіраецца. Была наладжана праверка, якая падчас агляду камэры № 1 выявіла забароненыя для выкарыстаньня прадметы. Дзяжурным па камэры быў прызначаны Ліхавід, які ня выканаў абавязкаў дзяжурнага і не паведаміў аб наяўнасьці забароненых прадметаў".

Паводле рашэньня начальніка атраду "Карантын" Наваполацкай калёніі Аляксандра Панкрата, віна Ліхавіда – у неданясеньні пра наяўнасьць у штрафной камэры цыгарэт у асуджаных. Сам актывіст Руху "За свабоду" ад дачы тлумачэньняў і прызнаньня сябе вінаватым адмаўляецца з той прычыны, што лічыць перасьлед за ўдзел у акцыі 19 сьнежня незаконным. 29 сакавіка бягучага году прысуд Мікіту Ліхавіду – 3,5 гады турмы – агучыла судзьдзя Партызанскага раёну Менску Натальля Пыкіна.

16 чэрвеня

## «Бярыце што хочаце. Толькі аддайце сына!»




У маці абвінавачанага ў тэракце 11 красавіка апісалі маёмасьць і правялі яшчэ адзін ператрус — у вясковай хаце, дзе жылі дзядуля і бабуля зьняволенага. Сам ён ня быў у той вёсцы больш за 10 год.

Маці аднаго з двух абвінавачаных у арганізацыі выбуху ў менскім мэтро 11 красавіка распавяла, што сын цяпер на псыхіятрычнай экспэртызе. Яго шпіталізавалі на 21 дзень, і мэдыкі павінны зрабіць высновы наконт стану ягонага псыхічнага здароўя. Маці найбольш хвалюецца за фізычнае здароўе: хлопец хранічна хварэе на астму алергічнага паходжаньня. Менавіта таму ён даўно ня езьдзіў у вёску, дзе жылі яго дзядуля і бабуля. Але 14 чэрвеня туды прыехалі сьледчыя зь ператрусам, распавядае маці:

«Езьдзілі зь перартусам на маю радзіму. Там жылі бацькі, якія памерлі 13 гадоў таму. Там хата старая. Глядзелі ў хаце, па шафах, у пуньках... Я спытала, што яны канкрэтна шукаюць. Сказалі, што нейкі дамкрат...».

Якое дачыненьне мае гэтая прылада да выбуху ў мэтро, маці ўдакладняць ня стала. Напярэдадні ў яе апісалі маёмасьць у віцебскай кватэры — супрацоўнікі міліцыі патлумачылі, што да абвінавачаных могуць быць матэрыяльныя прэтэнзіі за нанесеную шкоду. Пералік апісанай маёмасьці маці не пакінулі:

«Я кажу: маёмасьці ягонай няма. Што было — адзеньне там — дык забралі падчас другога перартусу і без усялякага пратаколу. Суседзі нашы, што былі панятыя, таксама казалі, што няма падставаў, што гэта рэчы бацькоў... Але паглядзелі — у нас тэлевізар, другі тэлевізар, кампутар... Я нават не прачытала, што яны там апісалі. Я сказала толькі адно: «Забірайце! Бярыце! Толькі аддайце мне дзіця!».

Маці ня верыць у датычнасьць сына да выбуху ў менскім мэтро. Апрача гэтага, абодвух зьняволеных у СІЗА КДБ хлопцаў вінавацяць у арганізацыі двух выбухаў у Віцебску ў 2005 годзе, у арганізацыі выбуху 4 ліпеня 2008 году ў Менску, а таксама ў 14 злачынствах, зьдзейсьненых з 2000 па 2011 год у віцебскім раёне ДСК, дзе жылі меркаваныя «тэрарысты».

Ня вераць у гэта і сябры арыштаванага. Сяргей і Андрэй вырасьлі з абвінавачанымі ў суседніх дварах:

«14 злачынстваў — проста трызьненьне нейкае! Гэта асабістая мая думка, няхай у іх там ужо па 10 тамоў на кожнае панапісана...».

«ДСК — не такі вялікі раён, каб тут ня чулі ажно пра 14 злачынстваў. Мы думалі-думалі, бацькі нашы думалі-думалі, але ніводнага злачынства згадаць не змаглі. Ці казалі, што знайшлі сшытак з формулямі ў сутарэньні... А бабуля выйшла ды кажа: «Вы што? У нас лямпачкі там ніколі не было, а вы кажаце — лябараторыя...».

Пасьля затрыманьня сябра Сяргей вырашыў зьвязацца з журналістамі і напісаў электронны ліст у «Камсамольскую праўду». Але праз тэлефон яму загадалі не замінаць сьледзтву:

«На наступны дзень — званок. Нумар ня вызначаны. Сказаў, што ён з КДБ, і што ня трэба гаварыць нікому лішніх словаў... А я прыцягнуць увагу хацеў да гэтай справы! Мне, калі выклікалі ў КДБ на допыт, таксама тэлефанаваў нявызначаны нумар. Вось у мяне пыталіся, як я магу сябра ахарактарызаваць. Як толькі я пачынаў казаць нешта добрае, сьледчы адкладаў асадку і пераставаў запісваць!».

Віталь, яшчэ адзін сябар абвінавачанага, ня бачыць матыву злачынства, таму сумняецца ў справядлівасьці затрыманьня:

«Калі я ненавіджу міліцыянтаў — буду ўзрываць апорныя пункты. Калі ненавіджу палітыкаў — ну хоць пэтарду каля іхнага дома кіну. А для дэстабілізацыі ў грамадзтве, якое і так дэстабілізавана, — гэта лухта! І ўвогуле я не ўяўляю, каб ён ведаў, як трэба зьмяшаць ацэтон зь нечым там яшчэ ў нейкіх там прапорцыях... Гэта ж адукацыю трэба мець! А ў яго няма... І ў падручніку па хіміі за сёмую клясу было толькі напісана адным радком, што траціл — гэта чацьвёртая вытворная ад фэнолу. Усё!».

Днямі было абвешчана, што тэрмін сьледзтва па справе выбуху 11 красавіка працягнуты на няпэўны тэрмін. Сябры мяркуюць, што час спатрэбіўся, каб людзі крыху забыліся пра выбух у штодзённых клопатах, і што сьледчым проста нестае доказаў супраць абвінавачаных.

*Крыніца: Радыё Свабода*

16 чэрвеня

## Сяргей Рыжоў заклікае да бестэрміновага нацыянальнага страйку



Былы прэтэндэнт на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах, жыхар Віцебску Сяргей Рыжоў прапануе распачаць страйк 3 ліпеня. Мэта страйку – адстаўка Аляксандра Лукашэнкі, вызваленьне палітвязьняў і правядзеньне новых выбараў прэзыдэнта. Зварот да жыхароў Беларусі Сяргей Рыжоў распаўсюдзіў праз інтэрнэт.

У звароце гаворыцца, што "рэспубліка застыла на мяжы чарговага дэфолту і разрабаваньня, страты сувэрэнітэту і незалежнасьці". Таму 3 ліпеня Сяргей Рыжоў заклікае ўсіх, хто гатовы супраць гэтага пратэставаць, выйсьці на галоўныя плошчы ў сваіх гарадох, а з 4 ліпеня скарыстаць любую мажлівасьць, каб не выходзіць на працу ці не зьяўляцца на вучобу.

Сяргей Рыжоў, які некалькі месяцаў таму абвясьціў пра стварэньне Беларускай кансэрватыўнай партыі "Белая Русь", прапануе ўсім суграмадзянам распаўсюджваць інфармацыю пра будучы страйк ды праводзіць агітацыйныя гутаркі пра неабходнасьць мірнага пратэсту. "Цяпер лідэрам робіцца кожны грамадзянін Беларусі. І ніхто ня мае права яму ў гэтым перашкодзіць!" – напісана ў звароце Сяргея Рыжова.

Падчас мінулых прэзыдэнцкіх выбараў ён абвясьціў пра сваё жаданьне балятавацца на гэтую пасаду, але сышоў з выбарчай гонкі за некалькі дзён да рэгістрацыі кандыдатаў. Паводле Сяргея Рыжова, ён мусіў зрабіць гэты крок, бо на чальцоў ягонай ініцыятыўнай групы чынілі ціск, што перашкодзіла сабраць неабходную колькасьць подпісаў за яго вылучэньне.

16 чэрвеня

## Затрыманых напярэдадні на плошчы Перамогі ў Віцебску адпусьцілі



*Фота: Сяржук Серабро*

Усіх затрыманых учора ў Віцебску падчас правядзеньня акцыі «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі» адпусьцілі. Перад тым кожны з затрыманых павінен быў даць «Объяснительную» наконт таго, дзе ён правёў ноч на 14 чэрвеня. Усяго ў пастарунку апынулася каля 20 чалавек. Людзей затрымлівалі за тое, што яны нібыта падобныя да нейкіх злачынцаў. Асабліва міліцыянтаў чамусьці цікавілі людзі зь люстэркавымі фотаапаратамі.

Сайт «Народныя навіны Віцебска», галоўны рэдактар якога С. Серабро апынуўся сярод затрыманых, падае некаторыя падрабязнасьці ўчорашняга інцыдэнту: «Калі грузілі ў мікрааўтобус, то па рацыі прагучала: "Серебро упакован! И еще какой-то фотограф". Сапраўды, за мной у старэнькі УАЗ увапхнулі маладога хлопца з фотаапаратам. Па дарозе да пастарунку прапаршчык палка міліцыі сьпецыяльнага прызначэньня спрабаваў дабіцца ад нас праўды — хто ж такі гэты "флэш-моб"? Аднаго хлопца схапілі супрацоўнікі КДБ, перад гэтым спыніўшы тралейбус, на якім ён ехаў, пры дапамозе машыны ДАІ. Міліцыянты да "падобных на зьдзейсьніўшых злачынства" ставіліся вельмі карэктна. Нават дазволілі хадзіць паліць у прыбіральню і вялі мілыя размовы пра аб'ектывы Minolta».

Як паведамлялася раней, учорашняе мерапрыемства на плошчы Перамогі адбылося ў рамках агульнарэспубліканскай акцыі «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі». Паводле інфармацыі Радыё Свабода удзел у акцыі ўзялі каля 200 віцяблян.

*"За правы чалавека"*

16 чэрвеня

## Уладзімера Рамановіча пазбаўляюць бізнэсу за грамадзкую актыўнасьць?

Уладзімер Рамановіч – арганізатар шматлікіх акцыяў за стварэньне ў Віцебску інфраструктуры для ўладальнікаў ровараў – роварных дарожак і парковак. Днямі да яго зьвярнуўся ўладальнік памяшканьня, якое актывіст арандуе пад адзіны ў абласным цэнтры хостэл – гатэль "Джаз". Патрабаваньне было ўльтыматыўным: вызваліць памяшканьне на працягу 10 дзён.



Як распавёў сам Уладзімер Рамановіч, уладальнік Сяргей Сьлюсар сам сказаў, што прычыны адмовы ў арэндзе – ня толькі эканамічныя:

"У апошні час праз валютны крызіс узьнікалі праблемы з пратэрміноўкай выплаты арэнднай платы. Але гэтыя праблемы вырашаліся, і грошы я плаціў, хіба што пазьней на нейкі тыдзень. 10 чэрвеня арэндадаўца мне паведаміў, што я мушу вызваліць памяшканьне на працягу 10 дзён, і што ў яго ўжо ёсьць іншы арандатар. Аднак, паводле дамовы, пра скасаваньне арэнды ўладальнік мусіў пісьмова папярэдзіць мяне за месяц, а не паведамляць пра сваё рашэньне вусна".

Паводле Ўладзімера Рамановіча, пісьмовага папярэджаньня дамагчыся ўсе ж удалося: ён атрымаў яго па пошце 13 чэрвеня. Паводле дамовы, да 13 ліпеня хостэл "Джаз" можа функцыянаваць, але такія ўмовы не задавальняюць заснавальніка хостэлу і могуць нэгатыўна адбіцца на іміджы "беларускай культурнай сталіцы".

"Галоўная праблема ў тым, што да 16 ліпеня ў Віцебску будзе праходзіць фэстываль мастацтваў "Славянскі базар", шмат людзей ужо замовілі нумары ў хостэлы і пералічылі за гэта грошы. Таму я хацеў бы датрываць хаця б да 18-20 ліпеня. Для арэндадаўцы гэта быў бы толькі "плюс", бо ў мяне зьяўляецца магчымасьць своечасова зь ім разьлічыцца. Тым больш, што дамова арэнды ў нас да верасьня. Аднак гаспадар робіць намёкі на тое, што яму загадалі аднекуль "зьверху", каб арэнду хутчэй скасаваць".

Уладзімер Рамановіч - сябра аргкамітэту па стварэньні партыі "Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя". У хостэл да яго завітвалі Павал Севярынец і Віталь Рымашэўскі. На мінулых прэзыдэнцкіх выбарах ён быў назіральнікам, а раней і сам балятаваўся ў мясцовыя саветы. Апошнім часам У. Рамановіч распачаў змаганьне за стварэньне ў горадзе інфраструктуры для ўладальнікаў ровараў. Першая ж з арганізаваных ім акцыяў – сымбалічны прабег па Віцебску - была разагнана супрацоўнікамі ДАІ.

16 чэрвеня

### "Малады Фронт" патрабуе спыніць жорсткае стаўленьне да Мікіты Ліхавіда

Малады чалавек ужо чацьверты раз за 40 дзён зьмешчаны ў турэмны штрафны ізалятар, умовы якога паводле міжнародных нормаў можна аднесьці да катаваньняў. Такое абыходжаньне з маладым 21-гадовым чалавекам мы лічым антычалавечым і просім зьвярнуць увагу на кіраўніцтва калёніі, спраўдзіць кампэтэнтнасьць іх ды іншых супрацоўнікаў гэтай установы",- гаворыцца ў звароце "Маладога Фронту".

"Мы патрабуем спыніць катаваньні, аказаньне ціску на Мікіту Ліхавіда і выканаць усе нормы для нармальнага ўтрыманьня чалавека да таго моманту, пакуль ён вымушаны там знаходзіцца",- гавораць маладафронтаўцы ў лісьце.

Зварот МФ накіраваны шэрагу эўракамісараў, у Дэпартамэнт выкананьня пакараньняў, Менскі гарадзкі Суд, Менскую гарадзкую пракуратуру, Кіраўніцтву калёніі. Аўтары звароту просяць ад Менгарсуду тэрміновага перагляду справы Мікіты Ліхавіда.




"Мы просім ад Вашых структураў, калі не вызваленьня незаконна асуджаных палітвязьняў, бо разумеем, што гэта ня ў Вашай кампэтэнцыі, але чалавечага стаўленьня да іх і адпаведнай рэакцыі, накіраванай на ўсталяваньне справядлівасьці", - падагульняюць маладафронтаўцы.

17 чэрвеня

## Віцябляніна Сяргея Рыжова прымусова прывозілі са шпіталя ў пракуратуру

Былы прэтэндэнт на ўдзел у мінулагодніх прэзыдэнцкіх выбарах, віцяблянін Сяргей Рыжоў падаў скаргу генпракурору Рыгору Васілевічу. Учора міліцыянты яго схапілі адразу пасьля прыёму ў лекара і прымусова прывезьлі ў пракуратуру для дачы тлумачэньняў. “Я абураны як самімі абставінамі майго гвалтоўнага прывозу ў пракуратуру, так і бязьдзейнасьцю па факце маёй скаргі на іх неправамерныя дзеяньні”, — піша ў скарзе Рыжоў.

На думку Рыжова, на яго працягваюць аказваць псыхалягічны ціск, “які не спыняецца ўжо больш за паўгады”. Нагадаем, за дзень да затрыманьня Рыжоў праз інтэрнет зьвярнуўся да беларусаў з прапановай распачаць страйк 3 ліпеня. Мэта страйку — адстаўка Аляксандра Лукашэнкі, вызваленьне палітвязьняў і правядзеньне новых выбараў прэзыдэнта.

*Крыніца: Эўрарадыё*

17 чэрвеня

## У Віцебску распачаліся штодзённыя супольныя малітвы за палітвязьняў



У Віцебску запачаткавалі традыцыю штодзённых малітваў за палітычных вязьняў. Першая малітоўная акцыя ўжо прайшла напярэдадні, каля крыжа Эўфрасіньні Полацкай на Ўсьпенскай гары. Каардынатар Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі па Віцебшчыне Тацьцяна Севярынец *(на здымку)* сказала, што сама ж ідэя штодзённых малітваў была ўзята па прыкладзе Менску:

“Я ўвесь час думала як пераняць эстафэту ў Менску для Віцебску, каб таксама арганізаваць супольную малітву, але ўвесь час я была занятая. Цяпер, пакуль сын са мной, я вырашыла што ўжо прыйшоў час. Дагэтуль я не магла выбраць месца, а тут такое натхненьне да мяне прыйшло — падказка, што гэта можна рабіць на высокім беразе Дзьвіны. Мы дамовіліся, што гэтую малітву трэба ладзіць штодня, супольная малітва дапамагае. 20 гадзінаў — гэта час адмысловы, у гэтую пару пачалася плошча”.

Паводле словаў Тацьцяны Севярынец, сёньня грамадзкія актывісты і вернікі зьбяруцца, каб маліцца за Беларусь.

*Крыніца: Радыё Рацыя*

18 чэрвеня

## Сяргея Серабро дапыталі ў пракуратуры



Рэдактара незалежнага сайту «Народныя навіны Віцебска» Сяргея Серабро дапыталі ў абласной пракуратуры наконт звароту Сяргея Рыжова, які зьявіўся на віцебскім «Вольным форуме вольнага гораду». Спадар Серабро зьяўляецца заснавальнікам форуму, на якім 15 чэрвеня былы прэтэндэнт на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах Сяргей Рыжоў разьмясьціў заклік да бестэрміновага агульнанацыянальнага страйку.

Супрацоўніца абласной пракуратуры Алена Казлова запісала паказаньні Сяргея Серабро, які нават ня ведаў пра ўчорашні допіс Сяргея Рыжова. Спадар Серабро патлумачыў, што Рыжоў — шараговы карыстальнік форуму, адмыслова створанага для таго, каб кожны ахвотны мог разьмясьціць на ім нейкую тэму для грамадзкага абмеркаваньня. У пракуратуры запыталіся, ці можа Сяргей Серабро выдаліць паведамленьне пра страйк, але загаду ці парады зрабіць гэта не было.

*Крыніца: Радыё Свабода*

18 чэрвеня

## *Карыстальнікаў сацыяльных сетак паставілі на прафіляктыку*




Напярэдадні 15 чэрвеня з моладзьдзю масава праводзіліся «гутаркі». Гэтак, адзін з жыхароў Віцебску, які далучыўся да суполкі «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку» Вконтакте, паведаміў, што 14 чэрвеня яму патэлефанавалі з дэканату і папрасілі прыехаць у навучальную ўстанову. Там маладога чалавека чакалі «супрацоўнікі, якія паспрабавалі завесьці канструктыўны дыялёг».

14 чэрвеня Генеральная пракуратура зьвярнулася з папярэджаньнем аб недапушчальнасьці заклікаць праз інтэрнэт людзей «да ўдзелу ў несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах». «Асобы, вінаватыя ў арганізацыі або ўдзеле ў незаконных масавых мерапрыемствах, могуць быць прыцягнутыя да ўстаноўленай законам адказнасьці».

Народныя гуляньні, да якіх заклікаюць праз сацсеткі, 15 чэрвеня прайшлі ў трох дзясятках населеных пунктаў Беларусі.

*Крыніца: “Наша Ніва”*

18 чэрвеня

## Хрыстафор Жаляпаў зьвярнуўся ў гарвыканкам



У заяве каардынатара руху «За свабоду» па Віцебскай вобласьці Хрыстафора Жаляпава на імя старшыні Віцебскага аблвыканкаму сп. Касінца паведамляецца, што гарадзкія ўлады пастаянна забараняюць правядзеньне масавых мерапрыемстваў грамадзянскім актывістам на падставе пункту 3 рашэньня Віцебскага гарвыканкаму ад 10.07.2009 г № 881.

На думку Хрыстафора Жаляпава, дадатковыя патрабаваньні нарматыўнага акту да заяўнікаў акцыі супярэчаць здароваму сэнсу і ч. 4 арт. 6 Закону «Аб масавых мерапрыемствах». Віцебскія чыноўнікі патрабуюць ад ініцыятараў акцыі альбо пікету разам з падачай заявы прадставіць дамовы з мэдыкамі, міліцыяй і камунальнымі службамі, якія будуць забясьпечваць абслугоўваньне і ахову падчас мерапрыемства. Разам з тым згаданыя ўстановы адмаўляюцца падпісваць такія дамовы без дазволу гарвыканкаму на правядзеньне акцыі. Такім чынам кола замыкаецца. Непажаданае (апазыцыйнае) для ўладаў мерапрыемства правесьці ў межах закону ў горадзе практычна немагчыма.

Такі стан рэчаў супярэчыць артыкулу 35 Канстытуцыі Беларусі, артыкулам 2, 19 Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, ч. 4 арт. 6 Закону «Аб масавых мерапрыемствах». Згодна з Законам «Пра нарматыўныя прававыя акты Рэспублікі Беларусь», рашэньне Віцебскага гарвыканкаму можа быць адмененае выканаўчымі ўладамі вышэйшай інстанцыі.

Каардынатар руху «За свабоду" па Віцебскай вобласьці просіць старшыню аблвыканкаму адмяніць п. 3 рашэньня Віцебскага гарвыканкаму ад 10.07.2009 г № 881, каб прывесьці яго ў адпаведнасьць з законам. Зацягваньне з вырашэньнем гэтага пытаньня, паводле Хрыстафора Жаляпава, ва ўмовах эканамічнага крызісу можа прывесьці да павелічэньня колькасьці несанкцыянаваных акцыяў пратэсту насельніцтва.

19 чэрвеня

## Паэт Някляеў атрымаў прэмію "За свабоду думкі"



У дзень нараджэньня Васіля Быкава 19 чэрвеня на радзіме кляcыка ў вёсцы Бычкі на Віцебшчыне паэту і палітыку Ўладзімеру Някляеву ўручылі прэмію «За свабоду думкі». Таксама на цырымоніі ў Бычках намесьнік старшыні руху "За свабоду" Юрась Губарэвіч паднёс аднаму зь лідэраў думак Facebook Андрэю Кабанаву кашульку з надпісам «Дружище, ты живешь не по средствам!». Гэтая фраза, прамоўленая намесьнікам міністра экономікі Андрэем Турам на прыёме ў швэдзкай амбасадзе, сталася «притчей во языцех» дзякуючы скандальным відэа, выкладзеным у сетцы блогерам Кабанавым.

Прэмія «За свабоду думкі» заснаваная рухам "За Свабоду" пад кіраўніцтвам Аляксандра Мілінкевіча. Між экскандыдатамі ў прэзыдэнты 2006 і 2010 гадоў былі і застаюцца прыкметныя палітычныя рознагалосьсі, што не перашкодзіла Мілінкевічу ўзнагародзіць Някляева прэміяй. Дарэчы, гэтае рашэньне прымаў ня лідэр руху «За свабоду», а ляўрэаты прэміі мінулых гадоў. У іх ліку Рыгор Барадулін, Павал Севярынец, Уладзімер Арлоў, Алесь Пушкін і Ада Райчонак.

*Крыніца: "Салідарнасьць"*

19 чэрвеня

## У Наваполацку затрыманыя тры актывісты аргкамітэту па стварэньні БХД

У цэнтры Наваполацку 19 чэрвеня каля 17 гадзін былі затрыманыя тры актывісты аргкамітэту па стварэньні партыі "Беларуская хрысьціянская дэмакратыя". Яны зьбіраліся узяць удзел у маршы нязгодных з нагоды шасьці месяцаў з дня прэзыдэнцкіх выбараў. Супрацоўнікі сілавых ведамстваў затрымалі Алега Крайко, які ўзначальвае мясцовы аргкамітэт БХД, Ільлю Багданава і Андрэя Дуброўскага, паведамляе прэс-служба аргкамітэту.

Днём раней у горадзе быў затрыманы Яўген Канстанцінаў - прадстаўнік каманды кандыдата на прэзыдэнцкіх выбарах-2010 Андрэя Саньнікава.

*Крыніца: БелаПАН*

20 чэрвеня

## Анархіст Ігар Аліневіч адпраўлены ў наваполацкую калёнію



Анархіст Ігар Аліневіч, які 27 траўня быў асуджаны да васьмі гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцьненага рэжыму, напраўлены для адбыцьця пакараньня ў папраўчую калёнію № 10 у Наваполацку. Паводле словаў яго маці Валянціны Аліневіч, у дачыненьні да яе сына ня раз ужывалі катаваньні падчас утрыманьня ў СІЗА КДБ:

"У Інтэрнэце я прачытала пра тое, што яго зьбівалі ў КДБ, спачатку перад усімі на прагулцы, а потым у камэры адзін на адзін. Даведалася ад тых людзей, якія зь ім разам сядзелі, што калі ў яго і ў Малчанава, які тады разам зь ім сядзеў, была высокая тэмпэратура, іх ганялі зь цяжкімі сумкамі па лесьвіцы туды і назад. Ігар вярнуўся ў камэру ніякі. Цяпер, калі я ўжо супаставіла, у які час не пускалі адваката, тое што не было ад яго лістоў месяцамі, я зразумела, што яны чакалі, каб зажылі гэтыя ўсе сінякі і раны. Увогуле, гэта звычайны фашызм".

28 лістапада Ігар Аліневіч быў затрыманы ў Маскве і з парушэньнем норм экстрадыцыі дастаўлены ў СІЗА КДБ Беларусі, хоць у пратаколе затрыманьня, які быў агучаны падчас судовага працэсу, пазначана, што ён быў затрыманы 29 лістапада ў вёсцы Рэдзькі Дубровенскага раёну Віцебскай вобласьці супрацоўнікам КДБ у гадзіну ночы.

*Аляксандар Ярашэвіч, Радыё Рацыя*

22 чэрвеня

## Кастрычніцкі райсуд Віцебску абвінаваціў блогершу ў абразе гонару і годнасьці яе суседа

Кастрычніцкі райсуд Віцебску абвінаваціў блогершу Тацьцяну І. у абразе гонару і годнасьці яе суседа па дачы — кіраўніка адной зь віцебскіх установаў. Судовае разьбіральніцтва працягвалася амаль год. Справа, заведзеная на падставе незадавальненьня допісам у інтэрнэт-блогу, разглядалася ў Віцебску ўпершыню. Віцебскія блогеры выказваюць абурэньне, спасылаючыся на тое, што блог — гэта, хутчэй, прыватны дзёньнік, а не СМІ, дзе друкуюцца артыкулы адмыслова для грамадзкага азнаямленьня. Многія сумна жартуюць, што цяпер можна прыцягнуць да судовай адказнасьці і за выказваньні пра зьнікненьне цукру, дэфіцыт валюты і гэтак далей.

У допісе на сайце blogi.vitebsk.biz распавядалася пра сьмерць ката, які жыў на дачы ў бабулі блогершы Тацьцяны. Яна піша, што ката не любілі суседзі, бо ён любіў залазіць у іх гараж. Паводле меркаваньня спадарыні, кот загінуў пад газонакасілкай суседа, і яна напісала ў сваім блогу: «Один из В. просто убил его газонокосилкой...», «Люди, господи, отчего может стать таким жестоким человек, хотя это и не человек вовсе!!! Люди, остерегайтесь этих нелюдей. Те, кто может расправиться с невинным существом, ничего, кроме злобы, зависти и жестокости, не имеют за душой...».

Сусед Генадзь В. даведаўся пра запіс у блогу і запатрабаваў ад Тацьцяны абвяржэньня, а таксама 5 мільёнаў рублёў матэрыяльнай кампэнсацыі. Судзьдзя Кастрычніцкага суду Ігар Рымша задаволіў зыск часткова: спадарыню Тацьцяну абавязалі зьмясьціць у блогу судовае рашэньне, сплаціць 700 тысяч рублёў Генадзю В. і кампэнсаваць судовыя выдаткі ў суме 210 тысяч рублёў.




Паводле зьвестак сайту «Народныя навіны Віцебска», дзе разьмяшчаюцца спасылкі на «Блогі Віцебска», уладальнік парталу Vitebsk.biz Арцём Лабада раіць блогерам мець на ўвазе сумны досьвед калегі і больш асьцярожна ды адказна ставіцца да сваіх допісаў у інтэрнэце, бо за віртуальнае паведамленьне, як высьветлілася, можна панесьці рэальную матэрыяльную адказнасьць.

22 чэрвеня

## Яўгену Канстанцінаву прысудзілі 350 тысяч штрафу



Гарадзкі суд Наваполацку прызнаў Яўгена Канстанцінава *(на здымку)* вінаватым у дробным хуліганстве: у бойцы і нецэнзурнай лаянцы. Амаль двое сутак актывіст правёў у ізалятары часовага ўтрыманьня — якраз тады, калі ў горадзе праходзіў «Марш нязгодных», у якім спадар Канстанцінаў меўся браць удзел.

Яўгена Канстанцінава абвінавацілі ў арганізацыі бойкі, якую ён апісвае так:

«17 чэрвеня каля майго пад'езду мяне сустрэлі двое невядомых і пачалі правакаваць на бойку. Гэта ўбачыла суседка ды крыкнула з вакна, што зараз выкліча міліцыю. Невядомыя сышлі, а міліцыя сапраўды неўзабаве зьявілася — аказваецца, каб забраць мяне ў пастарунак, бо на мяне на той час ужо нехта напісаў скаргу. У гарадзкім аддзеле падчас складаньня пратаколу мне наўпрост казалі: «Ты ж усё разумееш, гэта праз палітыку».

За пару дзён да затрыманьня ў Яўгена Канстанцінава правяліператрус. Яго забралі з працы ды павезьлі ў пракуратуру, каб выпісаць ордэр, дзе было запісана, што ён падазраецца ў незаконным вырабе самагону — нібыта такая заява паступіла ад суседзяў.

Самагоннага апарата ў кватэры не знайшлі. Затое спадар, які напісаў на актывіста заяву пра бойку, прыйшоў на суд нецьвярозы. Судзьдзя не змагла дапытаць сьведку з боку абвінавачаньня, бо той ня змог адэкватна рэагаваць на пытаньні — і працэс мусілі перанесьці з 20 на 22 чэрвеня.

На думку Яўгена Канстанцінава, прычыны ператрусу, затрыманьня і суду — выключна палітычныя. Падчас мінулых прэзыдэнцкіх выбраў ён працаваў у камандзе экс-кандыдата Андрэя Саньнікава, а цяпер — адзін з актывістаў грамадзкага аб'яднаньня «Вольны рэгіён».

*Крыніца: Радыё Свабода*

22 чэрвеня

## Ад Алены Ліхавід хаваюць інфармацыю пра сына

Маці палітвязьня Мікіты Ліхавіда Алена *(на фота)* ня можа дазнацца ў кіраўніцтва Наваполацкай калёніі, ці выйшаў ейны сын з карцэру.



Маці Мікіты гаворыць, што пасьля шматлікіх тэлефанаваньняў ёй увогуле далі зразумець, што размаўляць зь ёю ня будуць. І параілі даслаць пісьмовы запыт і чакаць адказу ў "вызначаны законам тэрмін".

Мікіту Ліхавіда мелі выпусьціць са штрафнога ізалятару 18 чэрвеня. "У панядзелак я цэлы дзень правяла на тэлефоне. Дзяжурны адмаўляўся адказваць на мае пытаньні – маўляў, вам можа адказаць выхаваўца ці начальнік калёніі. Выхаваўцы ўчора не было, а начальнік, як мне казалі, адышоў дзеля сваіх справаў", – распавяла "Белсату" спадарыня Ліхавід.

Учора месцазнаходжаньне Мікіты Ліхавіда спрабавала высьветліць ягоная адвакатка Дар'я Ліпкіна. Аднак і ёй параілі зьвяртацца пісьмова. "Магчыма, яны так паводзяць сябе, бо ім не падабаецца той вялікі розгалас, які атрымала справа майго сына. Пра тое, што Мікіта ўжо шмат разоў быў пакараны карцэрам, пісалі ня толькі беларускія, але і замежныя мэдыі", – гаворыць маці палітвязьня. Алена Ліхавід паведаміла, што калі і заўтра адвакатка ня зможа атрымаць адказу, яны паедуць у калёнію сустрэцца з начальнікам сьпецустановы.

*Крыніца: Рух "За свабоду"*

22 чэрвеня

## У Наваполацку ў маўклівай акцыі пратэсту ўзялі ўдзел больш за 100 чалавек

Больш за 100 чалавек сабаралася на акцыю "Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі" ў Наваполацку. Акцыя адбылася нягледзячы на



спробы мясцовай "сьпецаўтабазы" ачысьціць плошчу ад людзей: яны выгналі тэхніку, каб памыць плошчу, дзе перад пачаткам акцыі ўсё ўжо бязь іх удзелу "памыў" дождж.

*"За правы чалавека"*

22 чэрвеня

## У Віцебску затрымалі чатырох удзельнікаў «рэвалюцыі»

Сама меней чатыры чалавекі былі затрыманыя 22 чэрвеня на падыходах да плошчы Перамогі ў Віцебску.



Фота: Кастусь Буймоў

Затрыманьні адбываліся яшчэ да пачатку акцыі "Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі". Сярод затрыманых - журналіст Сяргей Серабро і моладзевы актывіст Аляксандар Кузьняцоў. Усяго ў мерапрыемстве ўзялі ўдзел некалькіх сотняў жыхароў Віцебску. Таксама акцыі пратэсту адбыліся ў Глыбокім, Воршы, Мёрах, Полацку і Наваполацку.

*"За правы чалавека"*

23 чэрвеня

## Віцебскую студэнтку затрымалі за распаўсюд газэты «Наш дом»

У Любові Сенчанка забралі 131 асобнік газэты і склалі на дзяўчыну пратакол паводле ч. 2 арт. 22.9 Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэньнях. У складзеным на Л. Сенчанка пратаколе напісана, што яна «распаўсюджвала замежнае выданьне «Бібліятэка „Наш дом"-інфо» без дазволу рэспубліканскага воргана дзяржаўнага кіраваньня ў сфэры сродкаў масавай інфармацыі».



На думку праваабаронцы Паўла Левінава, такая фармулёўка абвінавачаньня цалкам бязглуздая. «Па-першае, паміж урадамі Расейскай Фэдэрацыі і Рэспублікі Беларусь ёсьць пагадненьне пра бесьперашкодны распаўсюд СМІ ў межах саюзнай дзяржавы. Газэта грамадзянскай кампаніі „Наш дом" зарэгістраваная ў Расеі, зьяўляецца для Беларусі замежным выданьнем, але распаўсюджваць яе можна гэтаксама свабодна, як у шапіках „Белсаюздруку" прадаюцца расейскія часопіс „Лиза", газэта „Спид-инфо" і гэтак далей, — адзначыў Павал Левінаў. — Па-другое, паводле артыкулу 22.9 КаАП, Любоў Сенчанка вінавацяць у парушэньні заканадаўства аб СМІ. Але да адказнасьці ў такім выпадку можна прыцягваць юрыдычную асобу — заснавальніка газэты і гэтак далей, але не распаўсюдніцу, якая проста раздавала выданьне мінакам на вуліцы».

У выпадку прызнаньня Любові Сенчанка вінаватай ёй пагражае штраф у памеры ад 20 да 50 базавых велічынь.

23 чэрвеня

## Больш за 300 чыноўнікаў за паўтара года пакараныя у Віцебскай вобласьці за парушэньні ў працы са зваротамі грамадзян

Тры старшыні райвыканкамаў Віцебскай вобласьці і яшчэ больш за 300 службовых асобаў прыцягнутыя да дысцыплінарнай адказнасьці за парушэньне заканадаўства аб зваротах грамадзян за 2010 год і пяць месяцаў бягучага году. Аб гэтым сёньня на паседжаньні Віцебскага аблвыканкаму паведаміў першы намесьнік старшыні аблвыканкаму Ўладзімер Навацкі.

Наконт выяўленых парушэньняў заканадаўства аб зваротах грамадзян у 2010 годзе, студзені-траўні 2011 году выдадзена 15 прадстаўленьняў гар- і райвыканкамам аб прыцягненьні да адказнасьці вінаватых. За названы пэрыяд 309 службовых асобаў выканаўчых і распарадчых органаў вобласьці прыцягнутыя да дысцыплінарнай адказнасьці за парушэньне заканадаўства аб зваротах грамадзян, у тым ліку старшыні трох райвыканкамаў.



*Крыніца: БЕЛТА*

24 чэрвеня

## Андрэю Саньнікаву рыхтуюць атрад, ізаляваны ад усіх іншых атрадаў Наваполацкай калёніі



Зьвесткамі пра месца будучай адседкі экс-кандыдата на прэзыдэнта Андрэя Саньнікава падзялілася маці аднаго з палітвязьняў. Паводле яе крыніц, для Саньнікава ў Наваполацкай калёніі рыхтуюць 16-ты атрад. Яго асаблівасьць — ізаляванасьць ад астатніх атрадаў і своеасаблівы падбор вязьняў.

*Крыніца: Радыё Свабода*

24 чэрвеня

## Прысуд Алесю Кіркевічу пакінулі бязь зьменаў



Менскі гарадзкі суд пакінуў бязь зьменаў прысуд, вынесены Алесю Кіркевічу судом Кастрычніцкага раёну Менску. Кіраўнік гарадзенскай філіі "Маладога фронту" быў асуджаны судзьдзёй Алай Булаш да 4-х гадоў калёніі ўзмоцьненага рэжыму за ўдзел у "масавых непарадках", якія нібыта мелі месца 19 сьнежня 2010 г. Цяпер палітвязень знаходзіцца ў каранціне Наваполацкай калёніі № 10.

*"За правы чалавека"*

24 чэрвеня

## Мікіта Ліхавід даслаў маці ліст пасьля 4-га карцэру



Мікіта Ліхавід у лісьце да маці супакойвае яе пасьля чацьвертай адседкі ў карцэры, што «там жахлівага нічога няма». Ліст, напісаны пасьля карцэру, дайшоў вельмі хутка, адзначае Алена Ліхавід: «Заканчвае, што „ўсіх абдымаю, усіх цалую, сумую, хутка буду“. І намаляваў смайлік. „Заўсёды ваш сын, унук, сябра. Жыве Беларусь!“. І потым постскрыптум: „Гандзі спачатку таксама не маглі зразумець, але ён зьмяніў увесь сьвет“».

*Крыніца: Радыё Свабода*

26 чэрвеня

## Паўлу Севярынцу другі месяц не вяртаюць пашпарт



Сустаршыні аргкамітэту па стварэньні партыі "Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя" Паўлу Севярынцу, якога 16 траўня вызвалілі з залі суду, другі месяц не вяртаюць пашпарт. Пра гэта паведаміў сам Павал Севярынец. Зь яго словаў, напачатку ён зьвярнуўся ў Заводзкі раённы суд Менску, у якім быў асуджаны да трох гадоў "хіміі". Адтуль яго паслалі ў КДБ, а адтуль - зноў у суд Заводзкага раёну. Толькі тады судзьдзя Жана Брысіна, якая выносіла прысуд, паведаміла, што пашпарт ня вернуць да разгляду касацыйнай скаргі, г.зн. да 19 ліпеня.

*Фота: Юлія Дарашкевіч*

*Крыніца: Прэсавая служба БХД*

27 чэрвеня

## Намесьніка старшыні Віцебскага аблвыканкаму арыштавалі за хабар?

Паводле неафіцыйнай інфармацыі, намесьнік старшыні аблвыканкаму Леанід Кавалёў быў затрыманы яшчэ на мінулым тыдні. Афіцыйных зьвестак пра месца знаходжаньня чыноўніка ў прэсе пакуль няма. Пра затрыманьне Леаніда Кавалёва паведамілі 27 чэрвеня незалежныя сайты. У Камітэце дзяржбясьпекі ня сталі камэнтаваць інфармацыю пра магчымае затрыманьне намесьніка старшыні Віцебскага аблвыканкаму, паведамляе «Інтэрфакс».



У Віцебску на пасадзе намесьніка старшыні аблвыканкаму Леанід Кавалёў працаваў крыху больш за два гады: ён родам з Баранавіцкага раёну Берасьцейскай вобласьці. Скончыў Гарадзенскі дзяржаўны сельскагаспадарчы інстытут, Акадэмію кіраваньня пры прэзыдэнце Рэспублікі Беларусь, Берасьцейскі дзяржаўны тэхналягічны ўнівэрсытэт. Займаў розныя пасады ў аграпрамысловым комплексе, быў першым сакратаром БРСМ. Да прызначэньня ў Віцебск працаваў начальнікам кіраваньня справамі Менскага аблвыканкаму.

У апошні час Леанід Кавалёў апекаваўся сацыяльнай сфэрай, у тым ліку падтрымліваў ініцыятывы старшыні аблвыканкаму Аляксандра Косінца адносна рэканструкцыі плошчы Перамогі, супраць якой пратэставалі мясцовыя жыхары. Таксама ён неаднаразова выказваўся ў СМІ па праблемах ідэалягічнай працы. У прыватнасьці, патрабаваў, каб ва ўсіх кіраўнікоў ідэалягічных аддзелаў ды іх намесьнікаў былі працоўныя кампутары з выхадам у інтэрнэт — каб адсочваць навіны і быць у курсе настрояў у грамадстве.

*Крыніца: Радыё Свабода*

27 чэрвеня

## *Яўгена Канстанцінава змусілі звольніцца*

Апошні працоўны дзень у Яўгена Канстанцінава — 5 ліпеня. Навапалацкага актывіста змусілі напісаць заяву на звальненьне паводле ўласнага жаданьня. Ён працаваў на прадпрыемстве «Палімір», і праблемы на працы, як ён кажа, пачаліся ўжо пасьля прэзыдэнцкіх выбараў — ён працаваў у камандзе Андрэя Саньнікава. Цяпер спадар Канстанцінаў — адзін з актывістаў грамадзкага аб’яднаньня «Вольны рэгіён».

«Усё пачалося пасьля 19 сьнежня, але так, паціху. А цяпер ужо сказалі адкрыта: „Лепш звальняйся паводле ўласнага жаданьня, а то знойдзем артыкул“. Але маё жаданьне тут ня ўлічвалася. Можна ж стварыць у нас умовы, у якіх можна цалкам спакойна звольніць па артыкуле. Таму я вырашыў: каб праблем не было, звольнюся».

Заяву на звальненьне ён падаў пасьля таго, як 22 чэрвеня гарадзкі суд Навапалацку прызнаў яго вінаватым у дробным хуліганстве: у бойцы і нецэнзурнай лаянцы. Амаль двое сутак актывіст правёў у ізалятары часовага ўтрыманьня — якраз тады, калі ў горадзе праходзіла акцыя «Марш нязгодных», у якой спадар Канстанцінаў меўся браць удзел. Незадоўга перад тым, 15 чэрвеня, у Яўгена Канстанцінава правяліператрус, на які яго забралі проста з працы.

28 чэрвеня

## *У Віцебску працягваюцца штодзённыя малітвы за палітвязьняў*

У Віцебску ля крыжа Эўфрасіньні Полацкай на Ўсьпенскай горцы амаль два тыдні, пачынаючы з 16 чэрвеня, доўжыцца штодзённая малітоўная акцыя ў падтымку палітвязьняў, ініцыяваная віцебскімі актывістамі аргкамітэту БХД. У нядзелю 26 чэрвеня да малітвы далучыліся сябры БХД зь Менску.

Кожны дзень а 20-й гадзіне каля нядаўна адрэстаўраванага катэдральнага Ўсьпенскага сабору Віцебску зьбіраюцца неабыякавыя людзі, вернікі розных канфэсіяў, каб памаліцца за вызваленьне палітвязьняў і свабоду Беларусі. Удзельнікі штодзённай малітоўнай акцыі запальваюць сьвечкі ля Эўфрасіньнеўскага крыжа, трымаюць у руках партрэты палітзьняволеных.

За малітвай зазвычай сочаць міліцыянты і супрацоўнікі сьпецслужбаў, але ніякіх інцыдэнтаў пакуль не было.

У інтэрвію прэс-службе БХД абласная каардынатарка аргкамітэту Тацьцяна Севярынец распавяла:

“Штодзённая малітва мае свой чын. Кожны з прысутных прамаўляе малітву да Бога. Потым мы малітоўна згадваем кожнага палітзьняволенага па імя. Пры канцы, узяўшыся за рукі, чытаем агульнахрысьціянскую малітву “Ойча наш” і сьпяваем гімн “Магутны Божа”.

Часам людзей зьбіраецца няшмат, часам больш. Тым ня менш кожны дзень адбываецца супольная экумэнічная малітва за палітвязьняў і Беларусь. Падчас гэтай малітвы ў некаторых удзельнікаў нараджаюцца малітоўныя вершы.



Пасьля рэстаўрацыі Ўсьпенская горка - улюбёнае месца адпачынку віцяблянаў. Мінакі падыходзяць да нас, цікавяцца, а часам і далучаюцца. Я раздаю адрэсы палітвязьняў у турмах і калёніях для ліставаньня падтрымкі.

Мы ведаем, што там, дзе 2 ці 3 чалавекі зьбіраюцца разам дзеля малітвы, там і Гасподзь пасярод іх. Я хацела б, каб прыйшло разуменьне, што гэта патрэбна, бо малітва мае вялікую сілу, бяз Божай дапамогі мы нічога ня зробім. Каб узмацніць нашую малітву, Я запрашаю далучацца да нас усіх неабыякавых людзей”.

*Крыніца: Прэсавая служба БХД*

28 чэрвеня

## Глыбоцкі журналіст Кастусь Шыталь даў адказ чыноўніку



Як паведаміў у сваім блогу рэдактар інтэрнэт-рэсурсу «Весткі-інфо» Кастусь Шыталь, улады спрабуюць прыпыніць яго дзейнасьць. «Трэба злавіць Шыталя і правесьці зь ім тлумачальную гутарку, бо ён зусім абнаглеў», - цытуе журналіст словы аднаго высокапастаўленага чыноўніка, прамоўленыя тым на нейкай нарадзе. Праз свой блог Кастусь Шыталь даў адказ чыноўніку: спасылаючыся на артыкул 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, ён кажа, што і надалей будзе выконваць сваю працу як журналіст, бо тым самым ён рэалізуе сваё права на распаўсюд інфармацыі, а таксама дапамагае сваім землякам рэалізоўваць іх права, гарантаванае Канстытуцыяй, на атрыманьне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі.

У сваім адказе чыноўніку глыбоцкі журналіст таксама згадаў «Дэклярацыю прынцыпаў прафэсыйнай этыкі журналіста», выкананьне якой зьяўляецца абавязковым для ўсіх сябраў Беларускай Асацыяцыі Журналістаў і якая патрабуе ад яго «паважаць права грамадзтва ведаць праўду» і «не дагаджаць тым, хто пры ўладзе, памятаць, што кантроль за дзейнасьцю ўладаў зьяўляецца адной з найважнейшых функцый сродкаў масавай інфармацыі».

«Такія мае правы і такія мае абавязкі. Калі нейкаму грамадзяніну, які займае чыноўніцкае крэсла, гэта не падабаецца - гэта яго праблемы. Як кажуць у народзе, “няма чаго скардзіцца на люстэрка”...», - піша Кастусь Шыталь напрыканцы свайго адкрытага звароту да прадстаўніка ўлады.

*“За правы чалавека”*

28 чэрвеня

## У СІЗА Ўладзімеру Яроменку адмаўляюць у сустрэчы са сьвятаром

Адміністрацыя сьледчага ізалятару МУС № 1 у Менску адмаўляе асуджанаму па падзеях 19 сьнежня 2010 году Ўладзімеру Яроменку ў сустрэчы са сьвятаром. Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар міжнароднай моладзевай арганізацыі «Малады фронт» (Чэхія) Юліян Місюкевіч, зь лістоў Яроменка стала вядома, што ён ужо некалькі разоў пісаў заявы на сустрэчу са сьвятаром. «Адміністрацыя менскага СІЗА № 1 заявы ігнаруе, сустрэчу не арганізоўвае і нават не абгрунтоўвае, чаму зьняволенаму нельга сустрэцца са сьвятаром», - сказаў Місюкевіч.



«Калі сьвятара не пускалі ў СІЗА КДБ да Паўла Севярынца, адміністрацыя СІЗА хаця б аргумэнтавала гэта адсутнасьцю памяшканьняў для сустрэчы. Вядома, што ў СІЗА № 1 па вуліцы Валадарскага ў Менску такія памяшканьні ёсьць», - адзначыў Місюкевіч. Як ён заявіў, актывісты «Маладога фронту» лічаць факт адмовы ў сустрэчы вязьня са сьвятаром абуральным. «Такое стаўленьне адміністрацыі турмы да зьняволенага выклікае вялікае зьдзіўленьне, бо ў СІЗА № 1 існуе дамова зь Беларускім экзархатам на арганізацыю спатканьняў са зьняволенымі», - адзначыў Місюкевіч.

Уладзімер Яроменак за ўдзел у падзеях 19 сьнежня 2010 г. ў Менску быў абвінавачаны паводле часткі 1 артыкулу 293 КК (арганізацыя масавых непарадкаў) і прысуджаны да трох гадоў пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцьненага рэжыму. Такі вэрдыкт абвясьціла 14 траўня ў судзе Партызанскага раёну Менску судзьдзя Натальля Чатвярткова. Малады чалавек падаў касацыйную скаргу на рашэньне суду Партызанскага раёну. У СІЗА № 1 ён чакае разгляду скаргі ў Менскім гарадзкім судзе.

28 чэрвеня

### Сяргея Серабро выклікаюць на допыт у Дэпартамэнт папярэдніх расьсьледаваньняў



Рэдактару незалежнага сайта «Народныя навіны Віцебска» і заснавальніку віцебскага «Вольнага форуму вольнага гораду» паведамілі па тэлефоне, што яго мусяць апытаць пра допіс былога прэтэндэнта на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах Сяргея Рыжова, які заклікаў распачаць 3 ліпеня бестэрміновы агульнабеларускі страйк. У Дэпартамэнт папярэдніх расьсьледаваньняў Сяргей Серабро мусіць зьявіцца а 15-й гадзіне 28 чэрвеня. Наконт допісу Сяргея Рыжова ён ужо даваў тлумачэньні ў Віцебскай абласной пракуратуры 16 чэрвеня.

Заклік распачаць бестэрміновы агульнабеларускі страйк зьявіўся на віцебскім форуме 15 чэрвеня. Сяргей Серабро кажа, што былы прэтэндэнт на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах Рыжоў — шараговы карыстальнік форуму, адмыслова створанага для таго, каб кожны ахвотны мог разьмясьціць на ім нейкую тэму для грамадзкага абмеркаваньня. Дарэчы, у пракуратуры пыталіся, ці можа Сяргей Серабро выдаліць паведамленьне пра страйк, але загаду ці парады зрабіць гэта выказана не было.

*Крыніца:*
*Беларуская Асацыяцыя Журналістаў*

28 чэрвеня

## У Віцебску адключылі ТНТ

Папулярны расейскі тэлеканал ТНТ з 27 чэрвеня не трансьлюецца ў Віцебску па сетцы кабельнага тэлебачаньня. Паведамленьне аб адключэньні тэлеканала зьявілася на адным зь віцебскіх форумаў. Апэратар кабельнага тэлебачаньня «Гарант» на сваім інфармацыйным канале бягучым радком паведамляе: «У сувязі з заканчэньнем дзеяньня дамовы з 27 чэрвеня замест канала "ТНТ" уключаецца канал "Дом кіно"».




«Дом кіно» пазыцыянуецца як канал расейскага кінематографу. Каб падсаладзіць горыч ад адключэньня ўлюбёнага шмат кім канала (там трансьляваліся папулярныя шоў «Дом-2» і «Comedy Club») гледачам у тэставым рэжыме прапануецца канал «Ілюзіён +».

Яшчэ 17 чэрвеня ў Наваполацку камунальнае ўнітарнае прадпрыемства «Наваполацкае кабельнае тэлебачаньне «Вектар» спыніла трансьляцыю ТНТ, а ў Менску гэты тэлеканал недаступны ўжо з 1 чэрвеня.

*Крыніца: «Народныя навіны Віцебска»*

29 чэрвеня

## Маўклівая акцыя пратэсту ў Глыбокім сабрала 15 удзельнікаў



Маўклівая акцыя пратэсту, якая адбылася вечарам 29 чэрвеня ў Глыбокім, сабрала 15 чалавек. Людзі сабраліся невялікімі групкамі каля сцэны на Цэнтральнай плошчы. Атмасфэра была спакойнай і сяброўскай - удзельнікі размаўлялі, жартавалі. А 19:30 пapляскалі ў далоні і разышліся.

Супрацоўнікі міліцыі прысутнічалі на плошчы, але не перашкаджалі ўдзельнікам. Напачатку акцыі міліцыянт праверыў дакумэнты ў Кастуся Шыталя, пры гэтым паводзіў сябе вельмі карэктна. У мінулую сераду, 22 чэрвеня, на акцыю ў Глыбокім сабраліся восем чалавек.

*Крыніца: Весткі.інфо*

29 чэрвеня

# Сяргей Рыжоў адмовіўся сьведчыць супраць сябе



Экс-прэтэндэнт на ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах адмовіўся адказваць на пытаньні ў сьледчай управе папярэдняга расьсьледаваньня МУС Віцебскага аблвыканкаму. Сяргея Рыжова выклікалі туды, каб апытаць наконт заклíку распачаць 3 ліпеня агульнабеларускі бестэрміновы страйк.

Спадар Рыжоў кажа, што ў Дэпартамэнце папярэдніх расьсьледаваньняў яму патлумачылі яго правы, і ён адмовіўся размаўляць са сьледчым, скарыстаўшы 27 артыкул Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які дае кожнаму грамадзяніну права ня сьведчыць супраць самога сябе.

Гэтым самым правам ён скарыстаўся і 16 чэрвеня, калі яго гвалтам прывезьлі на допыт у Віцебскую абласную пракуратуру. Пракуратура распачала праверку па факце зьяўленьня ў інтэрнэце звароту спадара Рыжова да грамадзян Беларусі. У звароце напісана, што мэта страйку — "падзеньне рэжыму Лукашэнкі, вызваленьне палітвязьняў, правядзеньне сумленных выбараў і пачатак шляху да пабудовы сапраўды народнай рэспублікі, свабоднай у сваім выбары гістарычнага шляху". Страйк прапанавана распачаць 3 ліпеня па ўсёй Беларусі — выйсьці на цэнтральныя плошчы ў сваіх гарадох, а назаўтра, 4 ліпеня, не прыходзіць на працу або вучобу.

Паводле Сяргея Рыжова, ранкам 29 чэрвеня, неўзабаве пасьля таго як ён выйшаў з дому на допыт, у кватэру да яго прыйшлі міліцыянты. 73-гадовая маці спадара Рыжова адмовілася ім адчыніць, сказаўшы, што міліцыю яна не выклікала.

Напярэдадні супрацоўнікам Першамайскага РАУС удалося трапіць у кватэру Сяргея Рыжова: ім адчыніла дзьверы пляменьніца, якую таксама апыталі пра заклік да страйку.

Віцебскі дэпартамэнт папярэдніх расьсьледаваньняў апытвае сваякоў і знаёмых спадара Рыжова, які праз інтэрнэт заклікаў распачаць 3 ліпеня агульнабеларускі бестэрміновы страйк.

Паводле Сяргея Рыжова, 28 чэрвеня да яго ў кватэру прыйшоў супрацоўнік Першамайскага РАУС, які апытаў маці, сястру і пляменьніцу ініцыятара страйку. Сяргея Рыжова на той час дома не было, але сваякі распавялі, што міліцыянт не паказаў ніякага дакумэнту, каб пацьвердзіць неабходнасьць апытаньня. Яго цікавіла, ці падключаны ў кватэры інтэрнэт і ці ведаюць сваякі пра заклікі Сяргея Рыжова да агульнабеларускага бестэрміновага страйку.

*Крыніца: Радыё Свабода*

29 чэрвеня

# У Воршы – двое затрыманых



У Воршы адбылася акцыя “Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі”. Паводле паведамленьняў мэдыяў, затрыманыя двое ўдзельнікаў, у тым ліку сябра аргкамітэту па стварэньні БХД Яўген Анішчанка. Іх забралі ў адну з чатырох сьпецаўтамашын міліцыі, што дзяжурылі на мерапрыемстве.

*“За правы чалавека”*

29 чэрвеня

# «Маўклівая акцыя» ў Наваполацку была дастаткова гучнай

29 чэрвеня на плошчы Будаўнікоў прайшла «Ўсебеларуская акцыя “Беларусь маладая”», ва ўсялякім разе, так было заяўлена са сцэны, усталяванай на цэнтральнай плошчы Наваполацку. Тых, хто сабраўся на плошчы, забаўлялі шматдзетная сям’я, маладажоны, агітбрыгада, сьпевакі і танцоры. А сёмай гадзіне вечара ў цэнтры плошчы сабралася невялікая група людзей, што стаялі сьпіной да сцэны. А калі арганізатары сьвята вырашылі выбудаваць з тых, хто прыйшоў, у цэнтры цэнтральнай плошчы Наваполацку сымбалічнае «сэрца Беларусі», пачуліся воплескі, якія не змаўкалі цягам амаль як паўгадзіны.



Плошча прыкметна падзялілася на дзьве няроўныя часткі. Меншая частка знаходзілася перад сцэнай, большая ж стаяла бліжэй да Маладзёжнай і амаль бесьперапынна біла ў ладкі. Пры ацэнцы колькасьці тых, хто сабраўся на «вечар аплядысмэнтаў», гучалі лічбы ад 200 да 500 чалавек. А палове на восьмую, не спыняючы воплескаў, удзельнікі акцыі сталі разыходзіцца. Каля сцэны засталося прыкладна 150 - 200 чалавек, а літаральна праз 10 хвілін – усяго недзе пяцьдзясят.

*Аляксандар Муждабаеў, Хімік.інфо*

29 чэрвеня

# На Віцебшчыне адбылася «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі»

Сёньня ў Віцебску, Наваполацку, Полацку, Глыбокім, Воршы, Талачыне, Мёрах, Паставах адбыліся акцыі ў рамках ініцыятывы “Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі”.



Яшчэ загадзя амапаўцы і людзі ў цывільным з рацыямі ачапілі па перымэтры плошчу Перамогі ў Віцебску. Тым ня менш у акцыі ў абласным цэнтры ўзялі ўдзел ад ста да трохсот чалавек.

За некалькі хвілін да пачатку заплянаванага мерапрыемства сьпецназ пачаў праганяць людзей з плошчы. Маладым людзям забаранялі сядаць на лавы, што стаяць на ёй.

Пазьней, як пачаўся дождж, людзей загналі з плошчы ў падземныя пераходы. Як паведаміў сайт “Радыё Свабода”, пасьля заканчэньня акцыі міліцыянты спраўджвалі дакумэнты ў шматлікіх маладзёнаў, але пра факты затрыманьняў сярод іх невядома.

*“За правы чалавека”*

30 чэрвеня

# У Віцебску быў затрыманы Ўладзімер Правальскі



Як стала вядома, учора ў Віцебску быў затрыманы былы прэтэндэнт у прэзыдэнты прадпрымальнік Уладзімер Правальскі. Палітык быў схоплены міліцыянтамі а 19:20 нездалёк ад плошчы Перамогі, дзе ў той час адбывалася акцыя “Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі”. Уладзімера Правальскага даставілі ў Кастрычніцкі РАУС. А 22:00 ён быў адпушчаны без складаньня пратаколу.

*“За правы чалавека”*

30 чэрвеня

## "ВИТЕБСКИЙ КУРЬЕР" ЧЫТАЦЬ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ НЕЛЬГА

Палітвязьню Аляксандру Малчанаву, асуджанаму за ўдзел у Плошчы-2010 на тры гады калёніі, забаранілі чытаць незалежную газэту «Витебский курьер». Канвэрт з газэтай, зарэгістраванай у Расеі, вярнуўся адпраўніку з паметкай «недазволенае ўкладаньне».




«Витебский курьер» падтрымаў акцыю салідарнасьці, абвешчаную 20 чэрвеня грамадзкай кампаніяй «Наш дом». Рэдакцыя падпісала на сваю газэту зьняволеных, асуджаных у сувязі з падзеямі 19 сьнежня 2010 году. Сярод іх быў і барысаўчанін Аляксандар Малчанаў, які адбывае тэрмін у адной з магілёўскіх калёніяў.

*Марыя Іванчанка, Ex-Press.by*

30 чэрвеня

## Сьледчыя цікавяцца працай віцебскага «Вольнага форуму вольнага гораду»

Заснавальніка форуму Сяргея Серабро ўжо другі раз дапыталі ў Дэпартамэнце папярэдніх расьсьледаваньняў. Сьледчыя працягваюць праверку адносна допісу з заклікам да агульнабеларускага бестэрміновага страйку 3 ліпеня. Паводле Сяргея Серабро, сьледчыя пыталіся, дзе знаходзіцца ён асабіста, калі працуе з форумам у якасьці адміністратара.

Таксама яны выказалі жаданьне папрысутнічаць падчас такой працы, каб паглядзець IP-адрасы наведнікаў. Ад гэтага Сяргей Серабро катэгарычна адмовіўся: «Ня выключана, што службоўцы хацелі б завалодаць канфідэнцыйнай інфармацыяй пра тых, хто наведвае форум, і атрымаць доступ да форуму з правамі адміністратара. Я не магу гэтага дазволіць. Таму я прапанаваў толькі раздрукоўку наведваньняў аднае тэмы — пра страйк 3 ліпеня, дзе першы допіс належыць асобе, якая назвала сябе Сяргеем Рыжовым. У мяне ўжо пыталіся, ці ўпэўнены я, што на форум пісаў менавіта прэтэндэнт на ўдзел у мінулых прэзыдэнцкіх выбарах Сяргей Рыжоў. Але я не магу гарантаваць таго, што гэта сапраўднае імя карыстальніка».

Па факце заклiку да страйку праз інтэрнэт віцебскі Дэпартамэнт папярэдніх расьсьледаваньняў праводзіць сьледчую праверку.



30 чэрвеня

## Актывіст руху "За свабоду" з Гарадка атрымаў ліст з калёніі наконт Ліхавіда

Начальнік Наваполацкай папраўчай калёніі № 10 спадар Сівоха даслаў адказ актывісту руху "За свабоду" з Гарадка Леаніду Гаравому. Спадар Сівоха запэўнівае актывіста, што ягоная ўстанова працуе ў строгай адпаведнасьці зь беларускім заканадаўствам, прынцыпамі і нормамі міжнароднага права. Паводле словаў начальніка калёніі, Мікіта Ліхавід рашуча адмаўляецца выконваць свае абавязкі як зьняволены, што ёсьць грубым парушэньнем рэжыму. Менавіта за гэта да Ліхавіда прымяняюцца дысцыплінарныя меры пакараньня, у тым ліку зьмяшчэньне ў карцэр. Начальнік калёніі не ўважае адносіны да асуджанага Мікіты Ліхавіда са свайго боку ці з боку сваіх падначаленых за грубыя альбо бесчалавечныя.



Актывіст з Гарадка Леанід Гаравы, занепакоены сытуацыяй вакол Ліхавіда (малады чалавек адпраўляўся ў штрафны ізалятар чатыры разы цягам крыху больш як месяца), накіраваў ліст у папраўчую калёнію № 10, дзе выказаў просьбу выконваць закон і не дапускаць грубага, бесчалавечнага або зьневажальнага стаўленьня да палітвязьня Мікіты Ліхавіда.

Актывіст руху "За свабоду" Мікіта Ліхавід быў асуджаны да трох з паловай гадоў узмоцьненага рэжыму за ўдзел у пасьлявыбарчай акцыі пратэсту 19 сьнежня, кваліфікаванай судом як "масавыя непарадкі". Ён рашуча адмаўляецца прызнаць сябе законна асуджаным і падпарадкоўвацца некаторым турэмным правілам.

*Крыніца: Рух "За свабоду"*

Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.